# Што робіцца на сьвеце

### Абвастрэньне клясавай барацьбы ў Францыі.

Дрэнныя справы ў французаў. Немцаў пабілі, а ў саміх дзяржаўная казна прышла ў такое становішча, што хоць у дамавіну кладзіся.

228 мільярдаў франкаў (франк да вайны каштаваў 37 з паловай кап.)—вось сума ўнутранога доўгу францускай дзяржавы.

Нават калі лічыць, што францускі франк каштуе цяпер усяго 7-ю частку таго, што ён каштаваў да вайны (5 з паловай кап., замест 37 з пал.), дык усё-ж такі выйдзе вялізарны доўг, больш за 11 мільярдаў рублёў.

А гэта-ж толькі доўг унутраны! Дадаць да яго францускі доўг Амэрыцы (9 мільярдаў рублёў), Ангельшчыне (8 мільярдаў рублёў) і тады атрымаецца круглая лічба агульнага доўгу ў 28 мільярдаў рублёў.

Вось дык перамога французаў!

Цэлых 8 гадоў званілі аб сваёй перамозе над немцамі, колькі і ў які тэрмін Нямеччына будзе плаціць контрыбуцыю, а пасьля здарылася так, што ніякіх нямецкіх контрыбуцый не хапае для выплаты ўласных пазык. Недахоп—затым, што нямецкую контрыбуцыю жадаюць падзяліць паміж сабою ўсе быўшыя саюзьнікі, ды яшчэ і па „справядлівай“ разьвёрстцы. Падругое—хіба-ж Нямеччыну без канца магчыма будзе даіць? Вось над чым задумваецца зараз француская буржуазія. Задумваецца і моцна чухае патыліцу.

А ў казначэйстве—пуста. Папяровыя грошы ўсё больш і больш падаюць, служачыя і рабочыя патрабуюць дадатку да заработкаў, у гандлю пачынаецца затрымак.

У дадатак сябры-пазычнікі (амэрыканцы і ангельцы) з кожным днём то адзін, то другі прыстаюць да горла з нажом:

— Плаці пазыкі, ці я на цябе накладу апеку...

Няпрыемна францускім капіталістым слухаць такія гутаркі ад сваіх сяброў. Каб выйсьці з гэтага тупіка, француская буржуазія зьбіраецца зрабіць так, як зрабіла буржуазія Нямеччыны 3 гады таму назад. Яна хоча „стабілізаваць“ (узмацніць) францускія грошы, спыніць іх далейшае падзеньне, але з такой мэтай, каб цяжар гэтай справы ўсклясьці на рабочых і сялян.

З прыходам да ўлады новага ўраду Пуанкарэ, пачынае павялічвацца падатак на сялян, павялічваецца рабочы дзень, наогул пагоршала становішча працоўных Францыі. А гэта ўсё ў сваю чаргу вядзе да абвастрэньня барацьбы працы з капіталам. Бяз усякага сумненьня, шырокія колы працоўных мас ня будуць пасыўнымі, і рэформы Пуанкарэ прывядуць да іх уздыму.

Комуністычная партыя Францыі мае сваю праграму па ўзмацненьні франку, гэта: нацыяналізацыя франкаў, монополія замежнага гандлю, падатак на буйны капітал і г. д. Гэта і ёсьць ясная і зразумелая для ўсіх працоўных Францыі програма. Рана ці позна францускі пролетарыят возьмецца за яе ажыцьцяўленьне.

### Шахцёры непарушаны, яны чакаюць дапамогі.

Чацьверты мес.ц барацьбы канчаецца, а яны моцны, як сталь. Кастлявая рука сьмерці душыць іх жанок і дзяцей, але сярод мільёну і 200 тысяч вуглякопаў не знаходзіцца і тысячы, якія-б згадзіліся стаць на працу.

Вось гэта і прыводзіць у вар'яцтва сусьветную буржуазію, а ў першую чаргу буржуазію Ангельшчыны.

Шахтаўласьнікі лічылі, што ім удасца за кароткі час перамагчы бастуючых гарнякоў, але напрасна.

Забастоўка каштуе ангельскаму капіталу ўжо звыш трох мільярдаў рублёў.

Тры мільярды, і без надзеі на ўзварот.

У Ангельскай буржуазіі маюцца іншыя клопоты.

Справа ў тым, што імпэрыялістычныя ўрады іншых краін карыстаюцца ангельскімі ўнутранымі цяжкасьцямі дзеля таго, каб зьвесьці рахунак з Ангельшчынаю ў сваіх спрэчных міжнародных справах.

Капіталістых яднае толькі адно, гэта імкненьне да прыгнечваньня працоўных мас. Ува ўсім астатнім яны грызуцца, як ваукі, захопліваюць адзін у другога рынкі альбо вядуць бойку за падзел здабычы.

Францыя вырвала з рук Ангельшчыны вернага слугу—як Румынія, заключыўшы з ёю саюз. Яна-ж падгаварыла Грэцыю і Паўднёва-Славію падпісаць саюз, які будзе знаходзіцца пад апекаю Францыі.

Нямеччына скарыстала ангельскую суматоху, каб дагаварыцца з Францыяю аб такой важнай справе, як утварэньне „зялезнага інтэрнацыяналу“, аб'яднаньне цяжкай прамысловасьці для выцясьненьня ангельскай конкурэнцыі.

Італія адным кашачым скокам вырвала з ангельскіх рук Гішпанію і дагаварылася з ёю аб справах Міжземнага мора і г. д.

Ангельскі імпэрыялізм, вядома, усё гэта бачыць, але рукі яго зьвязаны забастоўкаю гарнякоў і яны ўжо ня маюць магчымасьці размахнуцца, каб спыніць усё тое, што робіцца без яго ведама.

У вапошнія часы ангельская буржуазія, як ранены зьвер, кідаецца ва ўсе бакі, яна зрабіла паўстаньне ў Пэрсыі і вайсковы пераварот у Грэцыі. Усё гэта для таго, каб як-небудзь адыграцца і пасадзіць там урад у сваіх-жа інтарэсах.

Але ўсё гэта дробязь у параўнаньні з тымі стратамі, якія церпяць капіталістыя ў сувязі з забастоўкаю шахцёраў.

Горнарабочыя-ж, ня гледзячы на вельмі дрэннае становішча іх самых і сваіх сем'яў, трымаюцца ўпарта і бадзёра.

Яны чакаюць нашай дапамогі!

**Ю. Балсунскі.**

МАЛАДЫ АРАТЫ
ОРГАН Ц.К. Л.К.С.М.Б.
ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 17 | Верасень 1926 г. | Менск

# Да „Дню Ўраджаю“

З кожным годам „Дзень Ураджаю“ становіцца ўсё больш масавым бытавым сьвятам вёскі. Узрастае агульная культурнасьць сялянства, узрастаюць яго запатрабаваньні ў агрономічных ведах, узмацняецца зацікаўленасьць да навуковых сельска-гаспадарчых досьледаў. Вось чаму „Дзень Ураджаю“ знаходзіць гэткае шырокае падтрыманьне ў масах сялянства.

„Дзень ураджаю“—дзіця комсамольскай ініцыятывы. Комсамольская організацыя адыгры вала выключна важную ролю ва ўсіх папярэдніх сьвяткаваньнях, выступаючы пачынальнікам у кампаніі. Гэтая роля пачынальніка захоўваецца для нашай комсамольскай організацыі і ў гэтым годзе.

Ужо цяпер вясковыя ячэйкі павінны разгарнуць ва ўсю шырыню падрыхтоўчую працу да сьвяткаваньня, якое адбудзецца 14 кастрычніка. Трэба адзначыць, што адным з слабых бакоў сьвяткаваньня мічулых гадоў, была дрэнная падрыхтоўка. За якія-небудзь два тыдні ў раёне пачыналася суматоха, зьбіраліся экспонаты, падрыхтоўвалі спэктаклі, агітавалі з наскоку сялян і як-небудзь выяжджалі.

Трэба, каб у гэтым годзе гэтых памылак не было. Сьвяткаваньне „Дню Ўраджаю“ патрабуе куды большай падрыхтоўкі, чымсьці якая-небудзь другая кампанія. Па сваёй істоце да яго трэба рыхтавацца праз усё лета, зьбіраючы экспонаты, падбіраючы літаратуру, азнаёмліваючы сялянства, падрыхтоўваючы прэміі.


Ураджай да хаты! (З колекцыі Сербава).

Якія асноўныя задачы ставяцца перад кампаніяй у гэтым годзе?.. „Дзень Ураджаю“ перш за ўсё павінен падагуліць сельска-гаспадарчыя вынікі і адбіць зрушша ў бок культурнага вядзеньня гаспадаркі, якое ў нас назіраецца. Разам з гэтым „Дзень Ураджаю“ павінен высунуць пэрспэктыўныя лёзунгі, найбольш баявыя дзеля таго ці іншага раёну. У нас на Беларусі гэткімі лёзунгамі павінны быць: барацьба за новае зямлякарыстаньне, барацьба за засеў культурных траў і караньплодаў, барацьба за разьвіцьцё жывёлагадоўлі і мэліорацыю балот, барацьба за колектыўную гаспадарку і сельска-гаспадарчую коопэрацыю.

„Дзень Ураджаю“ павінен зьявіцца днём барацьбы за культурнае вядзеньне сельскай гаспадаркі. Неабходна выкарыстаць усе формы агітацыі за культурнае гаспадараньне. Выставіць напаказ усе каштоўныя экспонаты самых сялян, організаваць экскурсіі ў агропункт, школу сялянскай моладзі, у машыннае таварыства, у прыкладныя гаспадаркі, наладзіць агітсуд над дрэннай гаспадаркай. Да „Дню Ураджаю“ трэба склікаць нарады комсамольцаў-гаспадароў з мэтаю выяўленьня іх дасягненьняў.

У цэнтры ўвагі павінны стаць перадавыя сяляне, якія ўжо маюць культурныя пачынаньні ў сваіх гаспадарках. У „Дзень Ураджаю“ яны павінны адчуваць сябе гаспадарамі сьвята.

Сьвята ўраджаю павінна выканаць яшчэ адну каштоўную задачу—задачу саюзу грамадзкіх і



культурных організацый вёскі з шырокімі масамі сялянства. Райвыканкомы, сельсаветы, коопэратывы, камітэты ўзаемадапамогі, агропункты, хатычытальні, савецкія гаспадаркі, сельска-гаспадарчыя гурткі і школы сялянскай моладзі павінны аб'яднацца вакол ячэек партыі і комсамолу з гэтай мэтай.

Райвыканкомы павінны разгарнуць твар сваёй гаспадаркі, коопэратывы—паказаць свае тавары, свой гандаль, даказаць сваю пераважнасьць перад прыватным гандляром, агропункты і сельска-гаспадарчыя гурткі—выставіць на паказ свае дасьледы і дасягненьні. Асабліва каштоўным зьяўляецца ўдзел колектыўных гаспадарак, якія павінны паказаць пераважнасьць колектыўнага земляробства.

„Дзень Ураджаю" не павінен прайсьці бясьсьледна. Трэба змагчы выкарыстаць сьвята з тым, каб організаваць сельска-гаспадарчы гурток, уцягнуць сялян у коопэрацыю, у машынныя мэліорацыйныя таварыствы і г. д. Каштоўныя практычныя пачынаньні сялян павінны знайсьці падтрыманьне з боку мясцовых савецкіх і коопэратыўных організацый.

Толькі тады „Дзень Ураджаю" зьвіцца сур'ёзным штурхачом у справе новага гаспадараньня на пачатках агрономіі і коопэрацыі па шляху нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

# „Дзень Ураджаю"—грамадзкае сьвята.

Маладое грамадзкае сьвята „Дзень Ураджаю" ў краіне Саветаў штогод пушчае ўсё глыбей і глыбей свае карэньні ў новы пасьлярэволюцыйны быт вёскі. Восень кожнага году ў земляробскай краіне нясе новы ўраджай. І гледзячы на тое, які мы здымаем ураджай, так шырока і сьмела і залежна ад яго, мы разгортваем у бліжэйшы час свой гаспадарчы і культурны рост.

Калі-б нашаму сялянству пры самай натужнай працы, і разам з працай агрономаў, коопэратараў, с-г. гурткоў і інш. і пры цэлым шэрагу розных мерапрыемстваў Савецкай улады ў галіне сельскай гаспадаркі, удалося-б штогод уздымаць ураджай на 2—3 пуды з дзесяціны, [1]) дык пры 3 мільёнах 200 тыс. дзес. засеваў БССР *гэта будзе значным дасягненьнем.*

Дзеля паасобных гаспадароў ці сельска-гаспадарчых адзінак, вядома, гэта мажлівая рэч. Мы ведаем цяпер шмат сялянскіх гаспадарак, якія павялічваюць свой ураджай значна хутчэй. Іх ураджаі, як і ўраджаі дасьледчых станцый, ужо стаяць на ўзроўні ўраджаяў Заходняй Эўропы—120—150 пуд. Сюды належаць нашы гаспадары-культурнікі, якіх зараз па БССР ужо зарэгістравана звыш 300. Такі-ж культурны ўзровень маюць і гаспадаркі сялян-дасьледчыкаў і амаль усе гаспадаркі, якія штогод прэміруюцца на розных с-г. выстаўках, некаторыя саўхозы, комуны, арцелі і г. д. Але ўсё-ж такіх гаспадароў і гаспадарак толькі адзінкі, а звыш 600 тыс. сялянскіх гаспадарак БССР пасоўваюцца наперад вельмі малымі крокамі. Шмат прычын перашкаджала іх росту, але нельга сказаць, што яны застануцца на месцы. Усе прыёмы і спосабы гаспадараньня, якімі падымалі свае ўраджаі дасьледчыя станцыі, сяляне-дасьледчыкі, добра вядомы агрономам і нашым савецкім і грамадзкім працаўнікам. За іх вядзецца агітацыя. Іх вывучае амаль кожны.

Вось чаму з кожным годам да гэтых культурных прыёмаў гаспадараньня пераходзяць сотні і тысячы новых гаспадароў. Калі два-тры гады таму назад шмат каго палохалі шматпольле, пасёлкі, пасеў кораньплодаў, асушка балот, здабыча торфу і г. д., дык зараз сяляне самі агітуюць за гэта. Самі гаспадары займаюцца палепшаньнем насеньня або скаціны, цікавяцца лепшым вырабам поля, markрознымі ўгнаеньнямі і г. д.

Пры ўсіх гэтых асаблівасьцях разьвіцьця і росту сельскай гаспадаркі нашым агрономам, коопэратарам, сялянству і ўсёй савецкай грамадзкасьці ўвосень, у „Дзень Ураджаю" лепш, чым калі, трэба падагуліць посьпех і рост сельскай гаспадаркі за бягучы год.

Тут павінен адзначацца ня толькі посьпех сялян-адзінак, якія сваёй старанасьцю і лепшай тэхнікай у гаспадарцы дасягнулі, напрыклад, добрага ўраджаю кораньплодаў, кармовых траў, павялічылі ўдоі кароў і г. д., але цікава, што зрабіла і сялянская колектыўная праца ў галіне мэліорацыі, культуртэхнікі, насенная справы, жывёлагадоўлі. Цікава, што зрабіла сялянства коопэрацыйным шляхам, бо коопэрацыйны мэтод працы і гаспадараньня ў некаторых галінах дробнай гаспадаркі робіць яе як-бы буйной. Дробная гаспадарка разам з другімі выкарыстоўвае дарагія машыны, заводзкага быка і г. д.

Пры ўсім гэтым у „Дзень Ураджаю" выяўляюцца посьпехі і дасягненьні буйных гаспадарак—саўхозаў, комун, арцеляй, дасьледчых станцый і г. д.

Падлічваючы ў „Дзень Ураджаю" посьпехі сельскай гаспадаркі, неабходна з імі і азнаёміць шырокае кола грамадзян і гаспадароў-сялян. Трэба, каб добры досьлед ці прыклад аднаго гаспадара стаў вядомы сотням. Толькі высьвятленьне дасягненьняў сельскай гаспадаркі, як і дасягненьняў у прамысловасьці, дапаможа ясна іх выявіць і пакажа, што трэба рабіць далей, куды накіроўваць і сілы, і сродкі гаспадара.

Выяўленьне нашых дасягненьняў у *коопэрацыі, гандлі, крэдытаваньні, прамысловасьці, лясной гаспадарцы* і г. д. вельмі цікава, бо ўсё гэта разам стварае пэўныя ўмовы для разьвіцьця сельскай гаспадаркі. А культурная сельская гаспадарка цесна зьвязана з гэтымі галінамі дзяржаўнай гаспадаркі; адна яна адарванай расьці ня будзе.

Усё гэта кажа, што „Дзень Ураджаю" ня можа абмежавацца толькі сельска-гаспадарчай ці прамысловай выстаўкай, адной лекцыяй на с-г. тэму ці спэктаклем.

*„Дзень Ураджаю"—наша грамадзянскае сьвята, сьвята сельска-гаспадарчай культуры, новага быту.*

Усе за падлік нашых дасягненьняў у будаваньні новай вёскі, за культурны рост краіны Саветаў.

**Сьц. Тупяневіч.**

[1]) Пэрспэктыўны пяцёхгадовы плян НКЗ маркуе штогодні рост ураджаю 4-х асноўных расьлін у 2 проц., а да вайны ўраджаі ў сярэднім павялічваліся на 1,32 проц. (Лічбы Аддзелу с.-г. экономіі і статыстыкі НКЗ. с т.).



I.

У жніўную пару цётка Акуліна заўжды ўставала рана. Як толькі пачынае тонуць змрок і закудзеліцца сінім цьветам досьвіцьце,—яна рупна падымаецца з палацяў. У хаце яшчэ цемнавата, абрысоўваецца толькі белая печ ды чорныя вокны. Хутка мыецца, скоранька хрысьціцца на пацямнелы абраз, каб здаць чаргу перад богам: бо ўсё-ж ткі неяк нельга пакінуць гэта.

На палу, раскінуўшыся, ціха сьпяць дзеці, а Пракоп, як хворы, крахціць на палацях. Дзень вялікі, а ноч—маленькая. Учора дзень выдаўся пагодны, дык ён да вечара касіў і гроб у копы сена; а цяпер баляць бакі і ўставаць ня хочацца.

— Ну, і куды так сьпяшацца?.. Яшчэ ноч, а яна ўжо ў поле зьбіраецца... Празута надта... і паспаць ня дасьць...

Бурчыць Пракоп з палацяў. Ён добра ведае, што Акуліна зараз пачне будзіць, тармашыць да таго, пакуль ён ня ўстане, і шмат нагаворыць яму што за дзень зрабіць.

— Пракоп... а Пракоп!.. ці чуеш ты... уставай. Ды ў печы выпалі, не забудзь сьвіньням нарваць травы. Пабудзі дзяцей, каб карову пастуху выгналі...—шыбенька кажа яна і ўсё сьпяшаецца.

— Адвяжыся ты: прыліпла, як смала. Сам ведаю што трэба!..—пракрычаў з палацяў Пракоп.

І яму хочацца пакрычаць і палаяцца.

— Двару ўсё прыяеш?!. Ты-б лепш удзень больш працавала. А то, як дзень ды сонца, дык яна пад капу спаць, каб не загарэцца...

А Акуліна, як працавітая гаспадыня, яшчэ больш абураецца: яе закранае тое, што яна самая працавітая гаспадыня ў вёсцы, а тут ён—лайдак, п'яніца!—яшчэ зьневажае...

— Сам ні трасцы ня робіць, дык думае, што й я такая... Вунь некаторыя яшчэ не зажыналі, а я скора дажну...

У Пракопа сон прайшоў. Больш ён ня можа спрачацца з Акулінай: прайшла злосьць, а язык Акуліны даўгі, яму-ж многа гаварыць няма ахвоты.

Тады ён устае, трэць кулакамі заспаныя вочы. Барада і валасы яго пераблытаны і ў іх чуць ня ношка саломы. Перад вечарам ён аддыхнуў у саломе, ды так і ня выбраў яе з барады, падобнай на мачала.

Пракоп чуе, як у сенцах Акуліна цэдзіць у пляшку вады, зьвініць сярпом.

— Глядзі-ж не забудзь, як за сноп'ем прыедзеш, абедаць прывезьці!—сказала ў дзьвярох, папраўляючы валасы пад хустку і пашла, заскрыпеўшы на дварэ варотамі.

Як вышла Акуліна за вароты, ёй сустрэлася ісьці разам Мяльляніха. На вёсцы яны былі самымі рупнымі і шчырымі да працы кабетамі. Зараз-жа завязалася гаворка:

— Охо-хо .. і сонейка ўжо ўстае... так пройдзе дзень, што ня ўбачыш!—ківала Акуліна галавою і худым маршчыністым тварам паказвала нездаваленьне.

— Як-жа?!.—гаварыла Мяльляніха,—працуй, працуй і прасьвету табе няма ніколі...

Тэма зьбілася. Пачалі гаварыць аб навінах, аб вясельлях, якія неўзабаве павінны быць пасьля жніва... Аб тым, як Іван з Дар'яй гуляў цэлую зіму, а цяпер ня хоча яе браць. Пляткаркамі яны ня былі, як іншыя кабеты, але-ж аб чым можна было гаварацъ?..

Пракопу не спадабалася, што яго жонка замест сябе прымушае паліць печь, рваць траву сьвіньням, насіць ёй абедаць. Што зрабіць: трэба пакарыцца, бо цяпер самая гарачая пара. І ня дзіўна: тое самае робяць і яго адзінокія суседзі.

Пакуль як сьлед падрыхтаваўся і вышаў на двор—сонца ўжо высака ўзнялося за пуняй і раскідвала чырвоны бляск. Неба было сіняе і абяцала ясны, пагодны дзень: якраз такі, што патрэбен у жніво.



Смага.

У канцы вёскі жаласна, па-раньняму, заграў на жалейцы пастух Мікіта, выганяючы кароў. Замукалі стадныя жывёлы, недзе заіржаў з начлегу конь.

Тады Пракоп стаў жвавей, забегаў па пунях, выганяючы статак. Выгнаў на выган вараную кабылу з дзядамі на грыве і ў хвасьце. І раптам яму стала так весела і радасна чамусьці: захацелася шырока размахнуцца ў лузе касою...

Раньнімі зыкамі абудзілася вёска. На лістох бяроз віселі кроплі. Сонца жартавала на худых і ўскалмачаных саломай вясковых стрэхах. Недзе доўга і зычна пастух Мікіта на сваёй жалейцы пеў пра сваё жыцьцё летам і ўзімку. Летам яму добра, а ўзімку холадна і голадна. І перабор нот так проста і жалобна гучэў за вёскай,—выліваў істоту сумотнасьці чалавека.

II.

Травачка мурожная—разарліва цьвет.
Эй, па табе я, травачка, пайду...

. . . . . . . . . .

Думкі мае, думныя,
у полі расьпяю...

*З жніўнай песьні.*

Мітульгою снуе сонца на жытнёвай постаці. Журацца вузкія палоскі, сумуюць пахілымі каласамі і нібы пяюць жніўна-вясельныя песьні, у якіх адчуваецца і сум, і радасьць, і нешта зусім нявыказанае істотай. Можа, думкі кажуць аб тым, як цяжка жаць, як горача пячэ сонца.

Жнівень сплёў блакітную сетку, і разам з хмарай павіснуў. А над полем—неба сіняе й далёкае, і ў той-ж час журботна-радаснае ад прозалаці сонца.

На вузкай постаці вясковая Прося ў думках скардзіцца на свой лёс так, як у жніво ўсе вясковыя жанчыны. Спрытна згінаецца яна над рэдкім пляшывым збожжам, вялікімі жменямі зьбірае сноп за снопам—і толькі ўверсе мільгае бліщчасты серп. А сьпіны не разьняць—ой, як баліць!.. Не здарма сёньня ўжо другія гоні пачала дажынаць...



Урадзіла...

Рукі ў Просі мазалістыя, чорныя; да крыві парэзала колкім іржышчам босыя ногі. Твар таксама чорны, ад працы худы, а ад дум і клопату на гэтым ласкавым твары застыгла напружанасьць, жаданьне справіцца з усімі ў рабоце. Хустка з галавы зьбілася на шыю, а па ёй рассыпаліся русыя валасы.

Яна хутка паправіла хустку, выцерла чорнаю рукою пот—і песьня папрасілася з душы: песьня, каб успомніць дзявоччыну. Яшчэ не старая, і дзявоччыну люба перабіраць у галаве...

Касіца мая—русая-а-а,
перамена мая легкая-а...

Інешта нявыказанае і не перапетае наганяе на вочы балючыя, як палын, горкія сьлёзы.

Ля капы жыта сьпіць маленькі сын Просі. Як толькі пачуецца крык з-пад снапоў, хутка бяжыць яна і калыша дзіцё; схіліцца над ім, скажа слова ад ласкі і зноў пачне жаць...

За жытам шапаціць лістамі асіньнік з бярэзьнікам—гай; а ельнік стаіць проста—не зварухнецца... Адтуль гудуць гаворкі касцоў, іх сьмех, і чуецца сталёвы звон кос.

—Вось хвалюецца перад вачмі маладасьць. Яна—прыгожа, як першая кветка вясны... Яшчэ й ня ўсё прашло: цяпер растуць дзеці—будзе радасьць, як вырастуць вялікімі...

Вяроўкамі спавілі думкі ў вузел. Цягнулі лепшае з самага нутра, з самага сэрца. А мінулае—сьлязьлівае, балючае—плямай абцягнула сэрца.

— ...Была ў роднага бацькі маладою, з таварышкамі сьпявала песьні ў зялёным бары.

Слухалі завулкі шчырую песьню каханьня, і закахалася Прося ў Ігната—маладога, вясёлага, а Ігнат ночы аб ёй ня спаў.

Цёмнай ноччу драмалі завулкі, шэптам лістоў казалі казку асіны, што за рэчкай; цёмна і страшна было. А яны ў зорную ноч разам былі.

І свая-не-свая хадзіла Прося. Тады й забралі Ігната на вайну; кляўся, як ішоў, што будзе вечна кахаць, а доўга чакала. На вёсцы-ж пачалі „распусьніцай“ зваць.

Цяжка было!.. толькі як прышоў Ігнат, тады заспакоілася сэрца...

Успаміны палілі яе; забыўшыся, яна азіралася вакол, а дажынаць трэ' было як можна хутчэй.

Пазірала Прося з зайздрасьцю ў бок. Там у ўдавы Мяльляніхі, сёньня жнуць тры комсамолкі, якія прышлі дапамагаць.

— Вясёлыя яны,—думае, разважае Прося,—заўсёды сьмяюцца... і ў бога, кажуць, ня вераць, а шчасьлівыя. І песьню яны пяюць, толькі ня з журбы, а сваю, комсамольскую.

Мяльляніха маладзее ад радасьці і ня ведае, як дзякаваць іх.

А яны ў жарты:

— Ці дужа кахаў цябе, цётка, твой Мяльлян?—жартавала вясёлая Гануля.

— Казалі, ён быў першым хлопцам на вёсцы!..

— І чаму-ж, мае дзеванькі!—жартавала й сама Мяльляніха.—Бывала, як запяю я дажынкавую... ды вясёлую, маладую.. як пачуе Мяльлян—з усякай работы прыбяжыць у поле...

І каб успомніць мінулае, яна сьпявае.

Сонца даўно звяліла з поўдня і падфарбавала і неба, і вёску, і поле. І дзяўчаты на постаці, як дажыналі, „лавілі дажынкі“, песьню сьпявалі.

— Шчыра вам дзякую, дзеванькі!..—сказала на разьвітаньне Мяльляніха і шнурам пашла дадому.

— Давайце Просі паможам!—сказала Гануля, і яны пашлі к Просі на дажынкі.

— Ну, і як мне вас дзякаваць за гэта?—пытала Прося, а сама са зьдзіўленьнем глядзела на іх.

— Не клапаціцеся, цётка, мы павінны вам дапамагчы!

— Як гэта, любыя... павінны?..

Тое, чым яны жылі, яна яшчэ не магла зразумець.

У вёсцы пачуліся вячэрнія зыкі і гоман. Змрок больш згусьцеў. Ня было бачна ўжо і двароў вёскі. Серп-маладзік схаваўся за хмарку, нібы з зорамі гуляў у жмуркі.

Па шнуры цэлым натоўпам ішлі жнеі да двара... У тую ноч плакала па шнуры, па загонах жніўная песьня, разьлівалася ў радасьці і журбе.

І вечар пеў пра дажынкі...

III.

Ужо канчалася лета. Пастрыжаныя палі сумотна стаялі, а па іх прабягаў вільготны ветрык Толькі на спазьнёных постацях рэдка стаялі пахіленыя копы збожжа...

Зьвязьлі ў гумны жыта і яр.

— Сёлета быў ураджай добры!—кажуць старыя людзі.

Вёска Галышына, як і ўсе вёскі—нязграбная і маўклівая.

Быў сьвяточны дзень. Вёска нібы абнавілася. Была ня прыбраная, толькі адчувалася так. З самага раньня на клюбе комсамольскай ячэйкі вісела афіша, якая надта зацікавіла ўсіх. А на афішы чырвонымі літарамі было выведзена:

Сёньня „Дзень Ураджаю“!

На сходзе будзе рабіцца даклад аб нашым сьвяце.

Сьпяшайцеся ўсе паслухаць!..

Ужо адны чырвоныя літары шмат чаго гаварылі...

— Цікава!?

— А што-ж там будзе?

— Трэба схадзіць... хоць нам—старым і ня гэта на ўме... Ды так таму й быць—сходзім...

— Кінь ты, Зьмітра. зайдзём хоць поўпляшкі хлібнём... Папырскаем дзень ураджаю, бо яно—наша сьвята: бяз гэтага нельга!

Размаўлялі тры дзядкі сярод вуліцы. Курылі. Былі прыбраны пасьвяточнаму, у белых кашулях.

У поўдзень пачалі зьбірацца на сход. Доўгія лаўкі комсамольскага клюбу ўсе былі заняты. Малюнкі на сьценах прывабілі баб і дзяцей.

Комсамолка Ганула „агітавала“ са сваімі тавар ышкамі жанчын наконт „Сьвята Ураджаю“. Між іх была Прося з Мяльляніхай і Акуліна.

Просі было не па сабе. Усё гэта новае аніяк не магло зьліцца ў адно сугалосьсе з пачуцьцямі душы. Але новае расло і расло ўсё больш засланяючы сабой старое і перажытыя мукі пачуцьцяў...

Пракоп дзеля сьвята быў падвыпіўшы, але віду не паказваў. Быў сур'ёзным, бо ўсе таксама былі сур'ёзнымі. Ён ня вытрымаў і спытаў:

— Дык скажэце-ж хоць, браткі, што тут будзе такое?

— Чакай!—сказаў Ігнат,—тады пабачыш...

Агроном рабіў даклад.

— Сьвяткуючы „Дзень Ураджаю,“ мы робім падлік нашым дасягненьням у гаспадарцы!—казаў ён.

Было гэта простае. Казаў пра тое, што блізка, таму і ўсе зразумелі. Вырысоўваўся малюнак з шырокім полем і поўным гумном збожжа. І трэба яшчэ нешта такое, каб прасякнуцца ўсім гэтым, тады зразумееш сялянскую радасьць—працы, вясёласьці і жыцьця. Пакрысе гэта радасьць запаўняла грудзі, шырылася ў палі, слалася па межах.

Пасьля шмат чаго гаварылі—выказвалі сьпелыя думкі сэрца. А тады хорам сьпелі песьню, прысьвечаную „дзядзьку ўраджаю“...

Пры канцы комсамольцы паставілі на сцэне, зробленай з дошчак, сьмяшлівую п'есу аб тым, як зьбянтэжаны Саўка, пасварыўшыся з Магрэтаю абмяняліся ў працы: Магрэта паехала ў поле араць, а Саўка застаўся дома. І вынікі былі такія сьмешныя, што ўсе рагаталі да ўпаду. А больш усіх працьвера зіўшыся—Пракоп.

Здаецца й нічога асаблівага ня было, а ў сэрцы кожнага засела тое, што падганяла, зьява, якая не давала супакою і прымушала шукаць у парываньнях да новага і нечаканага дасюль...

Вечар... Па-над логам слаўся туман. Маўчалі палі, а вёска не маўчала. Неба абрусом вісела, падатканае блішчастымі зоркамі. На ім вілася дарога—ні кім не праежджаная, не прабітая. На зямлі шмат такіх дарог. І кожнай з іх можна прыйсьці, каб таго захацелі, да людзкога шчасьця...

Радасьць...

Радасьць у сіняй павуціне вечара, падфарбаванага зорнымі думкамі.

Жніўнае сьвята затарахцела па загонах.

**Васіль Каваль.**

Менск.

# ЦІХІ ЖАЛЬ...

...Толькі ўчора
гай-музыка
поўніў радасьцю нутро...
Сёньня-ж гоман,
гоман дзікі,
ён разьвеяў па палёх.
Сад пакрыўся
жоўталісьцем.
Зажурылася вярба.
У гальлі
да долу зьвіслым
маністы ветрык нанізаў.
Ня чутны ў полі
песьні жнеек...

Коскі сьвіст у лузе змоўк...
Ой, як нудна,
нудна неяк
паглядае дзень ў вакно.
Гляну, гляну
на разлогі —
моўчкі дрэмле далячынь...
Ціхі-ж жаль
у сэрцы родзіць
шум апаўшае ліствы.

**М. Клімовіч.**

Жнівень 1926 г.
пас. Леніна.




# Комсамолец у сельскай гаспадарцы

Напрамак, па якому павінна пайсьці разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ў Беларусі, пры ўмовах адноснага аграрнага перанасяленьня,—гэта напрамак да пераводу сельскай гаспадаркі на больш культурныя формы: пераход на лепшыя формы зямлякарыстаньня і зямляапрацоўкі, разьвіцьцё жывёлаводзтва—надаць гаспадарцы вытворчы характар. Калі разглядаць працу комсамольцаў у сельскай гаспадарцы з гэтага пункту гледжаньня, дык можна адзначыць значныя дасягненьні. Карыстаючыся матэрыялам абсьледваньня Аршанскай організацыі, разгледзім гэтую працу ў наступным парадку: 1. Комсамолец—самастойны гаспадар. 2. Комсамолец у гаспадарцы сваіх бацькоў. 3. Праца вясковай ячэйкі па падняцьцю с. гаспадаркі.

**Комсамолец—самастойны гаспадар.**

Дасягненьне ў працы комсамольцаў — самастойных гаспадароў на сваёй гаспадарцы—характарызуецца пераломам у бок палепшаньня сваёй гаспадаркі, імкненьнем перавесьці сваю гаспадарку на больш культурныя формы, імкненьнем зрабіць сваю гаспадарку больш прыбытковаю і паказальнаю для сялян. Аб гэтым гавораць прыклады, калі комсамольцы—самастойныя гаспадары, маюць ужо практычныя дасягненьні ў гэтым напрамку. Так, напрыклад: сакратар ячэйкі Падбярэзьзе, Коханаўскага раёну мае паказальны вучастак, праводзіць кармленьне жывёлы па нормах. Комсамолец Халоблінскай ячэйкі, Лядненскага раёну перавёў сваю гаспадарку на шматпольле, мае племянную жывёлу, коопэраваў сваю гаспадарку. У Юрцаве, Аршанскага раёну комсамолец—самастойны гаспадар, праводзіў раньняе ўзорваньне папару, трымае жывёлу ў чыстаце, лепш за другіх даглядае за агародам, асыпаў капусту, буракі парасьлі ў яго лепшымі. З недахопаў у гэтай галіне трэба адзначыць тое, што комсамольскія організацыі—як ячэйкі, так і райкомы—мала зварочваюць увагі на падтрыманьне і дапамогу самастойным гаспадаром-комсамольцам, мала вывучаюць іх працу ў гаспадарцы,—слаба яе падагульняюць. А маюцца нават і такія выпадкі, калі ячэйкі глядзяць на комсамольца — самастойнага гаспадара, які палепшыў сваю гаспадарку і жыве лепш за другіх, як на заможнага селяніна, які пачынае акулачвацца, чым, зразумела, падрываюць ініцыятыву гэтага комсамольца, і падругое,—трэба адзначыць, што шмат комсамольцаў—самастойных гаспадароў, яшчэ не зразумелі задачы аб неабходнасьці падняцьця сваёй гаспадаркі, аб неабходнасьці зрабіць сваю гаспадарку паказальнай для вёскі,—стаць прыкладным гаспадаром.


Скародзіва перад пасевам азіміны.

**Комсамолец у гаспадарцы сваіх бацькоў.**

У галіне працы комсамольца ў гаспадарцы сваіх бацькоў, як дасягненьне, можна адзначыць тое, што комсамольцы ў гаспадарцы ў большай сваёй частцы зьяўляюцца ініцыятарамі-застрэльшчыкамі да пераводу гаспадаркі на лепшыя формы як зямлякарыстаньня, гэтак і зямляапрацоўкі, а таксама зьяўляюцца ініцыятарамі ў сям'і па коопэраваньні гаспадаркі. Як прыклады гэтаму, можна прывесьці наступнае. У Лядненскім раёне большая частка гаспадарак, у якіх маюцца комсамольцы, у вясеньнюю пасяўную кампанію ачысьцілі насеньне, некаторыя пратравілі формалінам пшаніцу. Маецца пяць гаспадарак бацькоў комсамольцаў, якія вядуць пакультурнаму гаспадарку, усе гэтыя гаспадаркі коопэраваны, пры апрацоўцы зямлі карыстаюцца аграведамі, добра вядуць жывёлаводзтва. Па ініцыятыве комсамольца бацька асушыў

балоцісты вучастак. У гаспадарцы другога комсамольца асушана 5 дзесяцін балота. Такіх гаспадарак, якія па ініцыятыве комсамольцаў правялі мэліорацыю, маецца некалькі. То; ф гэтымі гаспадаркамі скарыстоўваецца, як угнаеньне. З гаспадарак бацькоў комсамольцаў за апошні год перайшло на шматпольле (7—9 польле)—4 гаспадаркі.

Маецца яшчэ шэраг прыкладаў, якія гавораць за тое, што комсамольцы ў гаспадарцы бацькоў зьяўляюцца застрэльшчыкамі ў палепшаньні гаспадаркі. З недахопаў, якія можна тут адзначыць, гэта тое, што ячэйкі амаль што зусім не вывучаюць і не падл.чваюць працу комсамольцаў у гаспадарцы бацькоў, і не надаюць гэтай працы належнага значэньня і напрамку. І другое—што некаторыя комсамольцы самі не ў належнай меры зацікаўлены працай у гаспадарцы і ня досыць добра зразумелі задачу падняцьця гаспадаркі.

### Праца вясковай ячэйкі па падняцьцю сельскай гаспадаркі.

Комсамольскія ячэйкі ў асноўным зразумелі неабходнасьць удзелу ў працы па падняцьцю сельскай гаспадаркі, па пераводу яе на больш культурныя формы. Як вынік гэтага маюцца некаторыя практычныя дасягненьні. Так, напрыклад, комсамольскія ячэйкі прымалі досыць актыўны ўдзел у вясеньняй пасяўной кампаніі, склікалі сходы сялян, дзе растлумачвалі ім аб неабходнасьці ачысткі насеньня. У вёсцы Красьнікі, Аршанскага раёну, комсамольская ячэйка дамаглася пераходу ўсяе вёскі (72 двары) на шматпольле.

Казецкая яч. (саўхозкая) вядзе сярод сялян агропрапаганду, як вынік—пяць вёсак падалі заявы аб пераходзе на пасёлкі і шматпольле; у час пасяўной кампаніі чатыры вёскі ачысьцілі ў саўхозе насеньне.

У вёсцы Юрцава пры зямляўпарадкаваньні комсамольцы выступалі за пасёлкі; большая частка вёскі пераходзіць на пасёлкі,—комсамольцы праводзілі запіс. З недахопаў у працы ячэек па падняцьцю сельскай гаспадаркі трэба адзначыць, што яшчэ ня ўсе ячэйкі добра зразумелі задачу гэтай працы. Ячэйкі не зразумелі яшчэ таго, якая форма зямляўпарадкаваньня лепш: пасялковая ці хутарская. Сельска-гасп. гурткі пры ячэйках ня ўвязваюць сваёй тэорытычнай працы з практычнаю працаю ў сельскай гаспадарцы, і слабое кіраўніцтва імі з боку ячэек,—ня ўсюды прыцягваюцца агросілы да працы гурткоў. Амаль што ўва ўсіх мясцох адсутнічае скарыстоўваньне як ячэйкамі, гэтак і райкомамі, вопытна-паказальных пунктаў, станцый, агропунктаў.

Слаба ўцягнуты ячэйкі ў працу розных сельска-гаспадарчых таварыстваў і арцеляй.

### Далейшыя задачы.

Асноўнаю задачаю ў далейшай працы комсамольца ў сельскай гаспадарцы зьяўляецца—задача вывучэньня і зразуменьня пастаноў КПБ па пытаньнях с.-гаспадаркі,—гэта агульная задача ня толькі для паасобнага комсамольца, але і для кожнай ячэйкі ў цэлым. Практычныя мерапрыемствы—задачы, што выплываюць з асноўнай агульнай задачы, зьяўляюцца: большае вывучэньне і дапамога з боку комсамольскіх ячэек у працы комсамольцаў—самастойных гаспадароў, шляхам скліканьня пэрыодычных нарад гэтых комсамольцаў, дзе высьвятляць як пытаньні агульнага напрамку сельскай гаспадаркі—неабходнасьць яе коопэраваньня, так і пытаньні паасобнай гаспадаркі комсамольца.

Комсамольскія ячэйкі павінны павесьці барацьбу з выпадкамі погляду на заможнага самастойнага гаспадара-комсамольца, як на акулачваньне. Паставіць задачу ўцягненьня ў сельска-гаспадарчую коопэрацыю і іншыя с.-гасп. аб'яднаньні ўсіх комсамольцаў—самастойных гаспадароў, а таксама і гаспадарак бацькоў комсамольцаў; комсамольскія ячэйкі цалкам і кожны комсамолец павінны вывучыць перавагу пасялковага зямлякарыстаньня над хутарскім, прыцягнуўшы для гэтай працы агрономічныя і другія культурныя сілы. У працы с.-гасп. гурткоў неабходна больш прыстасоўваць іх тэорытычныя заняткі да практычнай працы, скарыстоўваючы для іхняй працы агросілы і вопытныя сельска-гаспадарчыя ўстановы.

У надыходзячай васеньняй пасяўной кампаніі, а таксама і кампаніі „Дзень ураджаю", комсамольскія ячэйкі павінны прымаць актыўны ўдзел па растлумачваньню сялянству пастаноў Савецкай улады і Комуністычнай партыі аб напрамку разьвіцьця і падняцьці сельскай гаспадаркі ў Беларусі, а таксама скарыстаць гэтую кампанію для падагульненьня працы комсамольцаў і ячэек у с.-гаспадарцы, высьвятляючы вынікі ў друку.

**С. Радкевіч.**

---

* *
*

Жыта пажатае,
Сэрца сялянскае
Песьціць сінеючы змрок.
Плыньню шырокаю,
Плыньню прывабнаю
Ўецца істужка дарог...
Выйду я раніцай,
Выйду гульліваю;
Сыпіць па-над рэчкай чарот.
Моўчкі зьвіваецца твань палыновая,
Роднаю песьню прастора пяе.
Жнейка стамілася,
Сонца пякучае,
Песьню працяглую
Песьню васеньнюю,
Песьню, як жыта ў даліне нудлівае,
Родную песьню прасторы пяюць.

Выйду я раніцай,
Выйду гульліваю,
Ўецца істужка дарог.
Жаляцца, жаляцца
Смагаю дзіўнаю
Шэрагі стромкіх снапкоў.
Краска прывабная,
Лета мінулася,
Выйду ў поле з сярпом,
Смутак зажну я.
Даліны імглістыя
Песьціць шумлівы чарот.
Выйду я раніцай,
Выйду гульліваю,
Уецца істужка дарог.

Койданава.

**З. Бандарына.**

# НАША Ж



„У Малады Араты" (супрацоўнік Клюйка з в. Матарова, Меншчына).

## Райком загадвае—значыць справа патрабуе.

— Т-с-с-с, ня шумі, бачыш, заняты...—Што гэта вы тут робіце?—А ты ня бачыш, п'есу перапісваем! —Якую? На што? Адкуль?— Якую? „Да новага жыцьця".—На што?—Ставіць будзем.—Адкуль?—З „Маладога Аратага".—Хто гэта вам загадаў перапісваць?—Хто-ж?—Райком.

Сабраліся раз райкомаўцы ды бядуюць, што няма п'ес якіх ставіць, а тут восень надышла. Якраз комсамолец зашоў з в. Прусінова ды кажа:

— А вы-б з „Маладога Аратага" паставілі-б. Там нішто сабе п'есы. Мы самі думаем ставіць „Да новага жыцьця".

Пераглянуліся райкомаўцы, пачырванелі трохі, ды кажучь:

— Калі-ж, ведаеце, у нас гэтага „Аратага" няма.

— Як, зусім няма, ня выпісваеце?—спытаў зьдзіўлена комсамолец, стаяўшы збоку.

— Не, чаму, на раёне выпісваюць, толькі ў Узьдзе не... Дык ты, браток, Ліхадзіеўскі, пастарайся прысляць нам у нядзелю „Аратага". Мы тут хлапцоў паднажмём, яны перапішуць. Нам добра будзе і другім дамо. А часопісь, будзь упэўнен, вернем у цэласьці.

Вось сёньня прынесьлі, дык нас і паднажалі перапісаць.

* *
*

Цяпер зразумела, чаму так мала распаўсюджан комсамольскі друк у нас на раёне. Бедны—гэта-ж 15 кап. не агорае. Але вы не глядзеце, хлопцы, на райком, выпісвайце часопісь, я ад першага нумару ўвесь час выпісваю і вам раджу. **А. В-вы.**

## Ураджайныя прыпеўкі.

Вецер хмаркі ў небе гоніць
Хмурыя бяздомкі.
Весялей зьвяні гармонік
На прыпеўкі ёмкі.
　Да дню „Сьвята Ураджаю"
　Коласы да зёрны.
　На ўсю вёску заіграю,
　Гэй, гармонік чорны.
Селяніну з Беларусі
Бульба, грэчка, лубін,
Лепш, як некая Маруся
Сэрца прыгалубіць.
　Залатісты ураджай
　Поўныя калосьці,
　Гэй, галубка, выбачай,
　Як гармонь галосіць,
Трэба глебу ўгнойваць
Торфам і лубінам,
Будзе збожжа пасьпяваць—
Пекната. Маліна.
　Знае кожны гаспадар,
　Ванька да Мікітка,
　Калі будзе ўраджай
　Будуць і прыбыткі.
Васька, Сідар і Барыс,
Раскажу з трох слоў я,
Прынясе усім карысьць
Жывёлагадоўля.
　Добры выган для жывёлы
　Трэба гаспадару,
　Грай, гармонік мой вясёлы,
　У сэрцы многа жару.
Вецер хмаркі ў небе гоніць
Хмурыя бяздомкі.
Весялей зьвяні гармонік
На прыпеўкі ёмкі.

## І ня думаюць аб паляпшэньні сваёй гаспадаркі.

*(Шацк, Менішчына).*

Вельмі часта ў газэтах, часопісах можна прачытаць: як працуюць с.-г. гурткі пры комсамольскіх ячэйках, аб апрацоўцы ленінскай дзесяціны і аб тым, як комсамольцы цікавяцца паляпшэньнем сваёй гаспадаркі. Шмат дасягненьняў маецца ў гэтай працы комсамольскімі ячэйкамі. Але Шацкая яч. пры с.-с. сваімі дасягненьнямі ня можа пахваліцца. Пры ячэйцы сельска-гаспадарчага гуртка ня было, які не з'арганізаваўся па нежаданьню саміх комсамольцаў-гаспадароў.

Апрацоўкай ленінскай дзесяціны ячэйка не займалася. Таксама ў вёсках гаспадаркі комсамольцаў-гаспадароў анічым не адрозьніваюцца ад другіх гаспадарак, аб паляпшэньні сваёй гаспадаркі комсамольцы і ня дбаюць.

Ня ўжо-ж і на далей так будзе?

**Юнселькор Вяскоў.**

## Сяміпольле пад небясьпекай.

*(Вёска Жыляхава, Чырвона-Слабодзкага раёну).*

Жыляхаўская ячэйка ЛКСМБ яшчэ з зімы мінулага году пачала агітаваць сярод насельніцтва за сяміпольле. Аб гэтым досыць часта разьбіраліся пытаньні, як на сходах ячэйкі, так і на агульных сходах сялян.

Надышла вясна. Наслухаўшыся агітацыі жыляхоўцы дзеля спробы палову пахаці адводзяць пад сяміпольле.

У пяршыню на полі зьяўляюцца буракі, сэрадэля і інш. культурныя травы. Буракі парасьлі нішто сабе, а сэрадэля зусім не ўрадзіла. А гэта таму, што жыляхоўцы засеяўшы не пабаранавалі яе.

Комсамольцы радуюцца, што іх мэта ажыцьцявілася, сяміпольле зьявілася, хлапцы ад радасьці, аб галоўным, як замацаваць гэтае сяміпольле, і забыліся. Але аб гэтым ім хутка прышлося напомніць, калі на сэрадэлю выпусьцілі жывёлу і пачалі рыхтавацца заараць яе.

— Калі заараць сэрадэлю—значыць сяміпольле зрываецца, гэтакая прабегла думка ў жыляхоўскіх комсамольцаў, асабліва ў сельсаветчыкаў. Пачалі зганяць кароў з поля,—рады ня дацы. Пачалі сход склікаць,—ня склічуць. Сэрадэлю стравілі.

Сяміпольле неабходна замацаваць. Раз цяпер яно праваліцца, значыць за 20 год яго ўжо не ўвядзеш.

Ячэйка, сельсавет павінны ўлічыць свае памылкі і іх справіць. А ў далейшым трэба заўсёды ў працы быць далёказрочным і ня трэба захапляцца ўдачамі.

Увясьці сяміпольле надта прыемна, але гэтага мала. на гэтым застанавіцца нельга, трэба чуваць тыя перашкоды, якія могуць сустрэцца на шляху і сваячасова ліквідаваць іх.

**М. Шпілеўскі.**

## Жывуць, як жылі дзяды.

*(Вёска Ляшчылава, Валынецкага раёну, Полаччына).*

Яшчэ і да сяго часу ёсьць на Беларусі вёскі, дзе Чырвоны Кастрычнік зусім мала павярнуў жыцьцё ў той бок, які вядзе да сьветлай будучыны. У гэтых вёсках моладзь жыве пастарому, padaўнейшаму. Гэта датычыцца моладзі вёскі Ляшчылава. Тут няма ніводнага комсамольца. Усе хлопцы комсамольскага ўзросту „выхоўваюцца" тут вольна: п'юць гарэлку, ладзяць вечары, дзе буяняць і г. д. і г. д. Дзеці неорганізаваны ў піонэрскі атрад.

Побач-ж з гэтаю вёскай маецца вёска Шайтрава, у якой расьцвятае новае сьветлае жыцьцё.

**Тах.**

## Праца атраду ЮП заняпала.

*(Каменская яч. ЛКСМБ, Уздзенскага раёну, Меншчына).*

Пры нашай ячэйцы існаваў піонэрскі атрад больш 2 год, цяпер яго можна сказаць, што няма. Ужо зараз 2 месяцы, як

# Ы Ц Ь Щ Ё

ня было збору атраду. Атрад распаўся. Тлумачыцца гэта тым, што правадыр атраду быў мала знаёмы з працаю, а таксама бюро ячэйкі і райдзетбюро мала давалі кіраўніцтва.

Так далей не павінна быць. Дзеці вёскі павінны быць у піонэр-атрадзе.

Райдзетбюро—гэта справа твая. Падумай аб ажыўленьні працы ў Каменскім атрадзе ЮП.

**К. Я.**

## Нашы шэрагі растуць.

*(В. Гулевічы, Случчына).*

Моладзь нашай вёскі мала цікавілася комсамольскаю працаю. Увесь вольны час яна праводзіла на гульнях, якія часта даходзілі да бойкі. Амаль ня кожнае сьвята можа было чуць сварку або бачыць таго ці іншага хлапца з разьбітым носам.

Але калі Жылехаўская ячэйка ЛКСМБ пачала часьцей склікаць сходы ў нашай вёсцы, дык моладзь надта зацікавілася комсамолам, і цяпер ужо 8 чалавек, з іх 3 дзяўчыны, падалі заявы аб прыняцьці іх у шэраг Ленінскага комсамолу.

Калі гэткія сходы будуць адбывацца ў нашай вёсцы і далей, дык можна спадзявацца, што шмат моладзі ўступіць у шэрагі комсамолу.

**В. Чыгір.**

## Самагонка дапаўняе тацулькі.

*(В. Барок, Пухавіцкі раён, Меншчына).*

Вёска Барок досыць вялікая, раскіданая на хутарох, мае шмат моладзі. Моладзь гэтай вёскі (большая палова шляхта) яшчэ і да сягo часу жыве пастарому, пада, нейшаму. Вечарынкі, розныя пагулянкі,—вось усе тыя заняткі, якімі жыве моладзь. Самагонка дапаўняе танцулькі. Праўда, была і тут закладзена ячэйка комсамолу, але за адсутнасьцю добрага кіраўніка і працы—рассохлася.

Бліжэйшая комсамольская ячэйка, зьвярні ўвагу на цемру гэтай вёскі і абудзі моладзь.

Селькор **А. С-ка.**

## „Добры гаспадар“.

*(З натуры).*

Каму прысьвячаецца,
дык той здагадаецца.
В. Гулевічы.

— Пятрусь, паіў ты жарабіцу?
— Не!
— А чаму?
— Хай яе воўк зарэжа, яна ўчора рана ня піла.

## Васеньнія прыпеўкі.

Грай, Лявоне,
На гармоні,
Восень песьняй сустракай.
Сып вясёла
Ды пра поле,
Пра сялянскі ураджай.
Ходзіць восень
Па пакошы—
Сабірае жоўты ліст;
Дождж бяз конца
Б'е ў ваконца,
Нудна слухаць ветра сьвіст.
Эх, ты, збожжа,
Маё збожжа,
Што песееш—то й пажнеш,
А шматпольле
Нам award
Сьляды зьнішчыць старых меж.
На гумнішчы
Жарам блішча
Залацістае пшано.
Папалудні
Дождж нудны
Хай стучыць сабе ў вакно.
Восень блізка
Гразна, сьлізка
Ніхто ў полі не арэ.
Пад гармонік
Неўгамонны
Лісьця скачуць на дварэ.
Плачуць хмары
У небе старым,
Паглядаюць ў люстры луж.
Проса, жыта
У сьвірні скрыта
Ад марозных зімных стуж.
Пуста, гола
У чорным полі,
Нудна слухаць ветра сьвіст,
Ходзіць восень
Па пакосах
Сабірае жоўты ліст.

**Грышка Ладны.**



Васельле ў вёсцы Слабада, Шацкага раёну.

## Расьцем за лік вясковай моладзі.

*(Стара-Барысаўская ячэйка ЛКСМБ, Барысаўскага раёну, сел.-гасп. тэхнікум).*

Комсамольская ячэйка сельска-гаспадарчага тэхнікуму да апошняга году расла амаль выключна за лік студэнцтва тэхнікуму. Ёсьць і тут дасягненьні: 70% студэнтаў—комсамольцы.

Ячэйка пачала расьці за лік вясковай моладзі яшчэ з па-залеташняга году, але асабліва шпаркі рост адбываўся гэтым летам.

У бліжняй вёсцы Мала-Стахаў (за паўтары вярсты) рост ідзе больш за кошт дзяўчат: з 19 комсамольцаў вёскі дзесяць дзяўчат. Дзяўчаты ў грамадзкай працы сваей вёскі—актыўныя і ў гэтых адносінах ня ўступяць і хлопцам.

У весцы Бычча (за 4 вярсты) рост пачаўся толькі гэтым летам, уступіла 19 чалавек. Вёска Бычча дагэтуль была вёскай, дзе цяжка было праводзіць якуюнебудзь грамадзкую працу. Была тут раней ячэйка комсамольская, якая згапьбіла сябе ў вачох сялян і моладзі. Моладзь ня ішла ў комсамол, і дзевятнаццаць комсамольцаў у гэтай вёсцы—крок наперад. Праўда, з імі наступнай зімой трэба правесьці вялікую працу, каб з іх былі актыўныя, сьвядомыя комсамольцы і каб яны былі прыкладам для астатняй моладзі.

Вёска Селішча—у 5 вярстох. Працы там дагэтуль не вялося ніякай. Комсамольца ня было аніводнага. Зьявіўся ўлетка комсамолец—хлапец гэтай вёскі, які вучыцца ў горадзе. І ўжо пяць хлапцоў падаюць колектыўную заяву аб прыняцьці ў комсамол.

Вёска Жыцькава аж за восем вёрст. Тры батракі вёскі падаюць заявы ў ячэйку. Не глядзяць, нават, што далёка хадзіць будзе.

За ўсё лета ячэйка вырасла на 38 чалавек у вёсцы, з якіх 10 дзяўчат. А ў зіму рост павінен пайсьці яшчэ шпарчэй. І ня дзіва, што насьпела пытаньне аб організацыі самастойных вясковых ячэек там, дзе можна, дзе ёсьць ужо вясковы актыў.

**Мікола Глух.**

# МАЛАДЫЯ ПЕСЬНЯРЫ



А. Карачун.

* * *

Усхваляваліся думкі няпроста...
Ну скажы мне, з чаго пачаць?
Выйду, выйду на жытнюю постаць,
Слухаць песьні вясковых дзяўчат.

Дзён ліхіх праняслася пагоня,
Сонца шле ім праклёны ўздагон.
Слухаў новую я сягоньня...
Дажынковай зьвінеў загон.

Навівай песьня радасьці кросны,
Гулкім рэхам зьвіні мацней;
Комсамолка увечар росны
На дажынкі пазвала мяне.

Ад таго у ваччу не цямней,
Што прад ноччу дзень хіліць калені.
Між вакон на сасновай сьцяне
У аржаных калосьсях Ленін.

Сыпле сказы дакладчык суквецьцем,
Водар гоніць з галоваў чад.
Расказала пра ўсё на сьвеце,
Хоць з вясковых сама дзяўчат.

Узрасла, як відаць, ня ў выгодзе.
Вачэй погляд вастрэй нажа,
Абяцала і нам на заводзе
Расказаць пра ўмалотны ўраджай.

Ускалыхнуўся ад буйнай песьні
Каля пуні прысадзісты клён.
Буду я аб дажонным снапе сьніць
У гэту сінюю ночку, як лён.

Усхваляваліся думкі ня проста
Сёньня я не магу маўчаць.
Выйду, выйду на жытнюю постаць
З чарадой сьпяваць жней-дзяўчат.

* * *

Дзе у поле ўрастае горад
І дарожкі дзьве разам зьвіліся,
Там заводзкія трубы горда
Падпіраюць блакітныя высі.
Толькі сонца праменьнем косым
Абліе ў роснай раніцы дзень,
А на вежы прастукае восем
Гудам гулкім завод загудзе.
Пакаціўшыся радыё хваляй
Ва мне новыя думкі абудзіць:
Будзе радасьці зноў ня мала,
Ой, як шмат асалоды будзе.
Зноў завод прапяе мне песьню
І адстукае рыфмы машына.
Я стаю не ля зломаных весьніц,
Хоць і вырас пад кустам крушыны.
Гул заводзкі гады перарэжа,
Вёсцы ўперад лягчэй будзе шыніць.
Я стаю на стальным узьбярэжжы,
Хоць і вырас пад кустам крушыны.

Ал. Карачун.

## Люблю пабыць я там...

Люблю пабыць я там,
Дзе зелянее сенажаць
і рэчка льлецца...
Гатоў я ўсё жыцьцё аддаць,
Каб толькі выслухаць там шопаты сталецьцяў.
Прысяду і паслухаю, што кажа
Там рэчка гучным пералівам.
О, шмат яна мне нагавора казак
Сваёю хваляю гульлівай!
— Цяку я шмат нязьлічаных сталецьцяў,
Сачу за рухам барацьбы,
Бывае пырскі мае ўзьлецяць,
Бо ведаюць, ёсьць людзі не рабы!..
Дваццаты век ёсьць век змаганьня,
Такіх ў гісторыі і ня было вякоў,
Каб бедны раб пасьля паўстаньня
Змог перарваць ланцуг акоў...
Люблю пабыць я там,
Дзе думка быццам рэчка льлецца
Жыцьцё да каплі ўсё аддам
У дваццатае
шчасьлівае сталецьце!

С. Ярмак.

## Конь сталёвы.

Нясецца ўперад конь сталёвы.
Сівыя верне дзірваны.
І як пад час маланкай ў хмарах
Мільгне лямеш ля баразны.
І рве кутняк, дзірван, карэньне,
Кладзе барозны з краю ў край,
А мне—пільнуй і ведай справу,
Што болей ходу яму дай.
Грымі, нясіся конь сталёвы,
Кідай барозны з краю ў край,
І ўсё працоўнае сялянства
У сям'ю магутную яднай.

Віцебшчына.

Вр. Люгоўскі.




# ПАШАНЦАВАЛА

*Комэдыя ў трох дзеях.*

### Асобы

Сымон—вясковы селянін, 48 год.

Марыля—яго жонка, 45 год.

Мікола—іх сын 20-21 год.

Зоська—іх суседка, каханка Міколы, 20 г.

Поп.

### Дзея I

*Сялянская простая хата. На сьцяне разьвешаны розныя плякаты і портрэты. Марыля чысьціць бульбу. Сымон чытае.*

#### Зьява I

Марыля. Што гэта значыць? Скора поўнач на дварэ, а яго ўсё няма... Пэўна ў клюб недзе пашоў, больш няма яму куды пайсьці!

І дакуль усё так будзе, вельмі мне цікава? Акром ночы, у хаце ня бывае хлапец. Як толькі настае раніца, дык яго, як вадою, з хаты змые і няўбачыш яго ў вочы аж да поўначы! Не, гэта служба яго да дабра не давядзе. Прападзе хлапец за сабаку!..

Сымон. Прапасьці то ён не прападзе! Гэта ня тое што мы з тобой. На чорта мы каму трэба? Ён, нябось, хлапец ня дурань.

Марыля *(перабівае)*. Ды яшчэ які дурань?! Сьвет прайдзі і гэткага дурня ня знойдзеш. На сходы там нейкія цягаюць. І яшчэ нейкаю трасцу выдумаюць, вось пабачыш!

Сымон. Не, маці, гэта ты панапрасна кажаш! *(Марыля слухае)*. Ад комсамольцаў мы нічога дрэннага, акром добрага, ня бачылі! Зайдзі ты ў клюб, пабач што там робіцца і што яны робяць.

Марыля. Глупствам займаюцца, бібікі б'юць, лодыра корчаць! Вось што яны робяць! У царкву хай-бы хадзілі лепш!..

Сымон *(з жартам)*. У царкву, кабетка, ім няма за чым хадзіць, ня дружаць яны з богам! Бог—ім вораг... ды і наш!

Марыля *(са страхам)*. Цьфу!.. Каб ты праваліўся. Боўдзіла стары! калода дурная! Аж у мяне ў сярэдзіне ўсё затраслося! Трэба-ж, і ён на бога што пачаў гаварыць?!

Сымон. У клюбе яны вучацца...

Марыля *(перабівае)*. На сабак брахаць!

Сымон. Не на сабак брахаць, а як лепш зямельку абрабляць, як наладзіць нашу гаспадарку, абмяркоўваць, як купіць агульную жняярку, сенакасілку, малатарню, веялку, сячкарню, як перайці на шматпольле і наогул папаўняюць свае веды. Там-жа ў клюбе яны здабываюць сабе адукацыю, якой пры цару мы ня мелі магчымасьці атрымаць. Яны—нашы дзеці пабудуюць лепшае жыцьцё, аб якім мы так даўно ужо думалі. Дык вось хто наш бог—навука і сялянская мазольная рука!

#### Зьява II

Зоська *(убягае ў хату)*. Цётка Марыля! Пазычце нам на хвілінку рэшата! Мамка хоча мукі прасеяць на бліны. *(Аглядаецца)*.

Марыля *(зьняўшы са сьцяны рэшата, падае)*. Вазьмі, да толькі прынясі заўтра!

Зоська. Добра, цётачка, прынясу абавязкова! Як прыдзе Міхалка, дык скажэце, калі ласка, каб ён да нас прышоў.

Сымон *(з жартам)*. Што, засумавала, зязюлька, па сваім галубку?

Зоська *(чырванеючы)*. Не... Мамка прасіла, каб ён нам заяву напісаў наконт сенажаці, што Андрэй косіць.

Сымон. Добра. Як прыдзе, скажу, каб зайшоў.

Зоська. Ну, дабранач! *(Выходзіць)*.

Сымон. Добрая дзяўчына гэта Зоська, шкада толькі, што бедная вельмі! Каб была крыху багацей, дык жонкі Міколу ня трэба лепшай і шукаць.

Марыля. Няхай, няхай жэніцца на ёй Мікола. Тут сваё багацьце ў шапку можна скласьці, а яшчэ яе багатырку такую возьме. Старцоў наплодзяць. Пара—нечага й казаць!

#### Зьява III

Мікола *(уваходзіць у хату, зьнімае сьвітку, вешае на сьцяне)*. Забавіўся я сёньня крыху болей у райвыканкоме. *(Да Сымона)*. Але між іншым мне прыдзецца пагаманіць з вамі, ня гледзячы на позні час. *(Да Марылі)*. Калі ласка, прыгатуйце чаго-небудзь павячэраць.

Марыля. Чаго там гатаваць? Вунь крупнік у гаршку! Бяры ды еш!

Мікола. Ну, добра, пасьля павячэраю! *(Садзіцца ля Сымона)*. Вось гэткая ў мяне да вас справа. Сёньня ўсе нашы працаўнікі выканкому

атрымалі пэнсію і ўсе купілі па некалькі абліга-цый сялянскае пазыкі...

Марыля *(да Сымона)*. А што? Не казала я табе, што выдумаюць яшчэ нейкую трасцу? Вось і выдумалі! Паперу нейкую будуць купляць! *(Да Міколы)*. Купі, купі, бо мала на сьцяне яе налеплена. Прыляпі яшчэ!

Сымон *(махнуўшы на Марылю рукой)*. Сьціхні ўжо, малатарня. *(Да Міколы)*. Ну, і што далей?

Мікола. Дык захацелася і мне купіць, але без вашае парады ня купіў Праўда, грошы нам вельмі трэба, але добрая штука і аблігацыі—ад іх шмат карысьці. Папершае: рублёвая аблігацыя каштуе 85 кап., за якую можна ва ўсякі час узяць рубель. Другое: гэтымі аблігацыямі можна здаваць падатак. *(Сымон ківае галавой у адзнаку згоды)*. Значыць аблігацыі ў кішэню, пашоў і здаў падатак, ня трэба мучыць каня, вязучы жыта. Трэцяе: пратрымаўшы год рублёвую аблігацыю, можна атрымаць 5 кап. проценту, а яна ўсё застаецца рублёвай. І чацьвертае, гэта—маючы аблігацыю, маеш надзею выйграць ад 5 да 1000 рублёў грошай! Вось якія можна мець выгады, купіўшы аблігацыі. Вось аб чым я і жадаў з вамі пагаманіць!

Сымон. А колькі-ж ты атрымаў пэнсіі? Рублёў з 20? А?

Мікола. Не, я атрымаў 28 руб., бо цяпер займаю вышэйшую пасаду.

Сымон *(з радасьцю)*. Дык вось, Міколка, 10 руб. пакінь на гаспадарскую патрэбу, а на 18 рублёў закупі заўтра-ж аблігацыі. З гэтых аблігацый мы здадзім падатак і шчэ нам застанецца на проценты і на выйгрыш.

Марыля. Купляйце, купляйце! Як ня будзе чаго есьці, дык зьясцё тады свае аблігацыі заместа хлеба, змачыўшы сьлязьмі!

Сымон. Нябось, бяз хлеба ня будзеш! *(Да Міколы)*. Прасіла Зося, каб прышоў, якуюсь там заяву напісаць.

Мікола. Ну, дык цяпер я схаджу да Зосі, а тады буду вячэраць. *(Выходзіць)*.

Марыля. Ідзі, ідзі, няхай крупнік зусім кісьне!

ЗАСЛОНА

## Дзея II

*Яшчэ бяднейшая, меншая хата. За сталом сядзіць Зося і штось шые.*

### Зьява I

Мікола *(уваходзіць у хату)*. Добры вечар.

Зоська. Добры вечар! Сядай, Міколка!

Мікола *(садзіцца ля Зосі)*. Ну, якая там справа? Навошта клікалі мяне?

Зоська. Выбачай, Міколка! Я падманіла цётку з дзядзькам, што трэба нам заяву пісаць. Мне сёньня штось вельмі сумна, вось я і захацела цябе бачыць!

Мікола *(з крыўдай)*. Ну, што ты, Зоська, стала жартаваць гэткімі рэчамі! Ты-ж ведаеш, што я сёньня яшчэ не вячэраў і не абедаў! Праўда, мне таксама хацелася цябе бачыць і пагаманіць аб цікавых рэчах, але-ж ты ня ведаеш, як я замарыўся працай!..

Зоська *(кінуўшы працу)*. Дык ты засердзіўся на мяне, Міколка? Ну, выбачай, у другі раз не патурбую!

Мікола. А ты ўжо пакрыўдзілася і засумавала? *(Абнімаючы)*. Ну, ня сумуй мая зязюлька, я таксама цяпер рад, што пагаманю з табою гэты вечар!

Зоська *(павесялеўшы)*. Ну, дык кажы, што ёсьць цікавага.

Мікола. Зараз!.. *(Зірнуўшы на хату)*. А дзе-ж цётка?

Зоська. Яна ўжо сьпіць даўно, пасьля цяжкай працы. Ну, кажы! Ня муч-жа ты мяне! Шпарчэй!

Мікола *(уздыхнуўшы)*. Эх, Зоська! Бедныя мы з табой—вось наша гора! Каб быў я крыху багацей, дык даўно-б жылі з табою, як мужык з жонк й. Гэта думка даўно мяне гняце. Сёньня я атрымаў пэнсію і дагаварыўся з бацькам купіць на 18 рублёў сялянскае пазыкі. аблігацый! Ад гэтых аблігацый, дарагая мая Зоська, шмат можна мець карысьці, а галоўнае, можна мець надзею выйграць ад 5 да 1000 руб. грошай. І вось калі я выйграю грошы, дык у той-жа дзень з табой і ажанюся, мая зязюлька! Ці згодна ты на гэта, Зоська?

Зоська. Міколка! Даражэнькі! Дзіва што я згодна!

Мікола. Пачакаем крыху, Зоська! А мо' і выйграю?! Тады ня буду чакаць ніводнага дня!

Зоська. А калі не?

Міколка. Тады я сам ня ведаю, што рабіць? Я думаю так, Зоська! Калі жаніцца, дык трэба, каб было супакойнае, радаснае жыцьцё, а ня сумнае, як гэта часта бывае ў бядноце!

Зоська. Гэта праўда! Будзем чакаць, Міколка!

Міколка. Будзем чакаць! А пакуль будзь здарова! Пайду спаць! *(Моцна цісьне руку Зоські і выходзіць)*.

Зоська *(адна)*: Пашоў!.. Зноў я засталася адна! Зноў сумота сэрца абвівае! Мілы, Міколка, як я цябе кахаю! Як сумна мне без цябе! А якая я сталася! Высахла ў шчэпку ад маркоты! Нават страшна на сябе глядзець, але пабачу, як я зьмянілася за гэты тыдзень! *(Бярэ люстэрку і глядзіць, стаўшы задам да дзьвярэй)*.

### Зьява II

*(Уваходзіць поп)*

Зоська *(спужаўшыся, кідае люстэрку)*. Ах!!! *(У бок)*. Ці ня чорт гэта?..

Поп. Мір дому сему! Што, сьвецік, любуешся на сваю аздабнату? Любуйся, сьвецік, любуйся! Дзела рук божаскіх. Я, здаецца, не памяшаю?

Зоська: А што вы хацелі, бацюшка? З якімі да нас справамі ў такую позьнюю пару?

Поп. Ды вось я шоў з хрэзьбін ад Марціна, ды зайшоў да вас...

Зоська. Бацюшка! Мамка ўжо сьпіць даўно і я хачу класьціся, дык кажэце, у чым справа?

Поп. А вось, мая зязюлька, мне заўтра трэба жнеі, дык ці не пашла-б ты мне пажынаць дзянькоў пяток?

Зоська. Добра, бацюшка, пайду, толькі вы мне, калі можна, грошыкі наперад, а то ў нас на'т есьці няма чаго.

Поп. Можна, зязюлька, я ўжо і заплачу! *(Дастае з кішэні і дае)*. Вось табе рублёвая аблігацыя—гэта значыць за пяць дзён!

Зоська *(у бок)*. Аблігацыя, якую хоча купіць Міколка? добрая рэч. *(Да папа)*. Добра, прыду! А ці возьмуць-жа яе ў краме? *(Бярэ)*.

Поп. Чаму-ж ня возьмуць грошы? *(У бок)*. На чорта каму бальшавіцкая папера?

Зоська. Дык я заўтра прыду жаць!

Поп. Прыдзі пажынай! *(У бок)*. Вот і ўпёр, а так і прапала-б, лежачы ў кішэні! *(Хоча цалаваць Зоську, але тая штаўхае ў дзьверы, куды і паплёўся поп)*.

Зоська. Як я рада, што й я дастала аблігацыю! А можа й я выграю што-небудзь? Толькі адно мяне дзівіць, чаго так хітра поп пазіраў? Ці ня дрэнная яна? *(Дастае і разглядае)*.

ЗАСЛОНА

**Дзея III**

*Хата Сымона. Марыля трэцца ля ўслону, перабіраючы пасуду.*

Зьява I

*З газэтаю ў руках у хату ўбягае Мікола.*

Мікола. Дзе татка?

Марыля. Дровы шчапае на дварэ!

Мікола *(праз вакно)*. Татка! Зайдзі на хвілінку ў хату, ёсьць цікавая справа!

Марыля. Што там за справа! Можа зноў надумаў якую трасцу купіць?

Мікола. Не, ня купляць, а разглядаць, што купілі!

Зьява II

Сымон *(уходзячы ў хату)*. Ну, што за справа?

Мікола *(паказвае на газэту)*. Вось надрукованы вынікі розыгрышу сялянскае пазыкі. Даставайце аблігацыі, будзем глядзець, ці не папала што на нашу долю?

Марыля *(прыслухоўваючыся)*. Расстаўляй шырэй кішэню.

Сымон *(дастае з кнігі аблігацыі)*. Ну, глядзі, а я буду чытаць. 485001?

Мікола *(прaглядае. Сумна)*. Няма!

Сымон. 485002?

Мікола *(таксама)*. Няма!

Сымон. 485003?

Мікола *(таксама)*. Няма!

Сымон. Ну і астатняя, 098637?

Мікола *(праглядае)*. Ёсьць! Ёсьць! 500 рублеў! 500! 500! *(Радасна)*. Вось чаго я чакаў!

Марыля. Я-ж казала, аблігацыі—добрая рэч, на іх не прайграеш!

Зьява III

*Уходзіць Зоська.*

Зоська. Чаго так шпарка й бадзёра ішоў Міколка? Што ст..лася?

Міколка *(весела)*. Вось гэта газэтка паказвае, што вось гэта наша аблігацыя выйграла 500 рублёў!

Зоська *(радасна)*. Выйграла? Значыць...

Міколка. Значыць мы жэнімся! Вось, Зоська, значыць наша шчасьце к нам і прыплыло!

Марыля. Дзіва што жэнішся, а мяне ты запытаў? На чорта мне старцоў у хату браць?

Сымон *(да Марылі)*. Ня каркай ты, варона! *(Да Міколы)*. Жаніся, сынок, я хвалю і адабраю твае думкі і справы. Зоська добрай будзе мне падсобніцай у гаспадарцы!

Зоська *(сумна)*. Міколка, будзь ласкаў, зайдзі цяпер да нас на хвілінку.

Мікола *(радасна)*. Пайдзем! *(Кладзе газэту)*.

Зоська. Вазьмі з сабою і газэтку!

Міколка *(сьмяючыся)*. Возьмем і газэтку! *(Выходзяць)*.

Марыля. Вось твой і Міколка! Будзе цяпер цягаць яго Зоська за сабой, як якое ягня!

Сымон. Хай сходзіць. Ён хоча цешчы пахваліцца!

Марыля. Яшчэ газэтку з сабою ўзяў. Выманіць яе Зоська ды і адтрымае грошы.

Сымон. Ня пужайся ты за газэтку.

Марыля: Яшчэ грошы прападуць!

Сымон *(радасна, з жартам)*. Ну што, баба? Чыё ўзяло? Ты-ж сварылася, каб ня куплялі аблігацыі!

Марыля. Я сварылася, каб куплялі больш! Аблігацыі рэч добрая, і Міколка маладзец, толькі жаніцца на Зосьцы яму я не дазволю!

Сымон. Дазволіш!

Зьява IV

Поп *(уходзячы)*. Мір дому сему хрысьціянскому! Чаго й-та вы сварыцеся, а ня жывеце ў міры ды сагласіі?

Сымон. А гэта наша справа, баця, а не твая!

Зьява V

*Весела ўскакваюць Зоська з Мікалам.*

Мікола. Вось дык пашанцавала! Мая жонка Зоська.

Марыля. Якая яна твая жонка?..

Мікола. Так, яна будзе маёю жонкай! Дык і Зоська, значыць, выграла сто рублёў! Вось і аблігацыя, якую ёй поп даў за жніво!

Сымон *(з радасьцю)*. Пашанцавала майму Міколу.

Поп. Не пакінуў мяне гасподзь, грэшнага. Пачуў мае малітвы! *(У бок)*. Я-ж думаў—прападзе аблігацыя! *(Да ўсіх)*. Аблігацыю я за жніво аддаў, а выгрыш мой, ды мне і грошы трэба. Давай аблігацыю, як грошы атрымаю, дык зноў аддам, бо яна твая!

Зоська. Ня дам!

Марыля *(паказвае дулю)*. Вось табе аблігацыя. Зоська—жонка Міколы, дык аблігацыя яго, а не твая! Ды Зоська-ж табе й жала за яе!

Сымон *(рагоча)*. Вось дык лоўк..! Не садзіся, поп, не ў свае сані і ня будзь да грошай такі ласы!

Поп. Ня дам я свайго благаславеньня і ня буду іх вянчаць у цэркві божай, калі не аддадуць мне грошай!

Марыля *(са страхам)*. Божа-ж мой!..

Міколка *(рагоча)*. Ну і дурны-ж ты, поп, як бот! А ці запытаў-жа ты мяне, ці пайду я к табе ў цэркаў? Нас павянчае ЗАГС, а табе няма чаго тут рабіць! Можаш укатывацца! *(Выпіхае папа за дзьверы)*.

Марыля. І то праўда! ЗАГС і бяз грошай павянч е, а яму дык нейкіх рублей 10 цягні! Чорт яго бяры з папом!

ЗАСЛОНА.

Т. Кошэль.

# Кампост, як сродак угнаеньня

Ня раз прыходзіцца селяніну-гаспадару задумвацца над пытаньнем: ці хопіць гною для глебы. Каб вырашыць гэтае пытаньне, селянін абдумвае яшчэ з восені, пакідаючы на зіму жывёлу з разьлікам, каб хапіла харчоў.

Але як ні разьлічвае, як ні клапоціцца селянін аб падняцьці сваёй гаспадаркі, аднак, з гэтага мала карысьці. Загатоўка харчоў для скаціны кожны год памяншаецца з тэй прычыны, што большасьць сенажаці зрыта сьвінямі, на палову страўленая, як гэта прыкмячаецца ў некаторых вёсках. Такім чынам, няма магчымасьці разагнацца з гадоўляй жывёлы.

І той гной, які мае селянін у гаспадарцы, уносіцца ў глебу, як сьвянцонае зельле.

— Няма гною—няма добрага ўраджаю.

Каб выйсьці з такога цяжкога становішча, можна параіць заготоўку кампосных куч.

Загатоўка кампосту не патрабуе затраты сродкаў, а калі прыдзецца папрацаваць, дык гэта праца акупіцца ўраджаем. Для закладкі кампоснай кучы трэба выбраць месца трошкі вышэйшае за ўзровень паверхняй глебы, каб ня змывала сьнегавая і дажджавая вада.

Самае галоўнае, каб кампосная куча была ў зацішку: паміж будынкаў ці кустоў, каб цень не дапускала вялікага выпарваньня вільгаці сонцам і ветрам.

Лепш за ўсё рабіць кампосную кучу недалёка ад хаты; гэта затым, што яе можна заўсёды падбаўляць кожны дзень: з сьмецьця і інш.



Вёска ў верасьні (з кол. Сербава).

Калі месца ўжо выбрана, ладзіцца як-бы фундамант з зямлі для будучай кучы. Зямля бярэцца пухкая і насыпаецца пластом да $^1/_4$ аршына ў вышыню, шырыня земляной насыпі робіцца каля сажню, даўжыня ў залежнасьці ад кампоснага матэрыялу. Куча можа мець любую форму: круглую, чатырохкутную і інш.

Насып зямлі робіцца пад кампост з тэй мэтай, каб не прасачваліся ў глебу каштоўныя солі. На пабудаванай аснове кладзецца рознага роду матэрыял, які толькі пападаецца пад рукі.

Паложаны пласт матэрыялу пакрываецца тонкім пластом гною, які будзе зьяўляцца як-бы дрожджы для рошчыну будучага кампосту. Каля кампоснай кучы трэба асобна загатаваць кучу чорнай зямлі, а самае лепшае—торфу.

У гэтым заключаецца ўся падрыхтоўка і пачатак закладкі кампосту. Далейшая праца над кампостам заключаецца ў тым, каб матэрыял, як кастрыца, крапіва, дзёран, картафлянік, лісьце ад саду, сажа, попел і іншае, накладваўся пластамі з кожнага матэрыялу паасобна, а зьверху трэба прысыпаць тонкім пластом зямлі ці торфу і палівацьь вадою.

Кампосную кучу можна класьці ў вышыню да 3-х аршын. Вышэй класьці ня трэба, бо гэта можа пашкодзіць доступу паветра, якое так патрэбна кампоснай кучы.

Самы верхні пласт кампоснай кучы пакрываецца зямлёю. Даглядваць кампосную кучу трэба наступным парадкам: калі прайшло 4 месяцы ад пачатку закладкі кампосту, трэба перакапаць рыдлёўкаю, добра перамяшаўшы пласты кучы.

На зіму кампосная куча накрываецца гноем або бульбянікам, каб не перамёрзла ад марозу. На наступную вясну па бакох кучы трэба садзіць зуркі ці гарбузы, каб было гацяненьне.

Кампост для падкладкі пад расьліны лічыцца тады гатовым, калі ён ужо рассыпаецца.

Прыгатаванае гэткім парадкам угнаеньне мае якасна большую сілу, чымсьці гной. Вывозіць кампост на поле трэба перад самым пасевам, а таксама можна рассяваць па прарослых расьлінах пад дождж.

Вельмі добра ўгнойваць кампостам сенажаці. Вывозіць яго трэба раньняю вясною, рассыпаць па траве і добра забаранаваць. Ад кампоснага ўгнаеньня якасьць травы мяняецца; яна становіцца смачней для спажывы, пры тым укос сена павялічваецца.

Кампосту на адну дзесяціну ў сярэднім трэба класьці да 1.000 пудоў. Сама выгадна і прыбыткова класьці кампост на грады агароду. Тут можна рассыпаць яго па версе град радамі на поўвяршка, на якія трэба садзіць гуркі, буракі, капусту і іншую гародніну.

Пры пасадцы маладога саду няма нічога лепшага, як падсыпаньне пад карэньні маладога дрэўца гарцаў са два кампосту, які дае гатовую ежу маладым карэньчыкам.

Кампост можна загатаўляць з аднастайнага матэрыялу: дзёрну, сарнякоў, лісьця і інш. **Ц. А.**





# Хэмія на вайне

Ужо і старыя і малыя ведаюць, што маюцца на сьвеце газы; ведаюць, што гэтыя газы ўжываюцца на вайне з мэтаю, каб атручваць імі людзей. Але гэтага, бязумоўна, мала. Мы павінны дамагчыся



Газавая атака.

таго, каб кожны грамадзянін Савецкага Саюзу ведаў, што гэта за газы, якую шкоду яны робяць чалавеку, як ад іх захавацца і г. д.

Вайсковая тэхніка шпаркімі крокамі ідзе наперад і нам ужо добра вядома, што ў будучай вайне хэмія і авіяцыя будуць мець рашучую ролю.

Нямеччына першая выдумала газы і першая скарыстала іх у 1915 годзе супроць французаў. Шмат тады загінула французскіх салдат, бо ні ў кога яшчэ ня было процівагазаў. Але не прашло і аднаго месяцу з моманту нямецкай газавай атакі на французаў, як ужо ўсе ваюючыя дзяржавы мелі свае газы і процівагазы. З таго часу хэмія пашла шпаркімі крокамі наперад і ўжо цяпер маецца шмат гатункаў газу.

Наш Савецкі Саюз мае свае газы і процівагазы і розныя нэўтралізуючыя жыжкі (якія робяць газ няшкодным), але ўсё гэта галоўным чынам знаходзіцца ў руках Вайсковага Ведамства, дзякуючы чаму кожны чырвонаармеец ужо не баіцца ніякіх газаў, бо ён ведае, як захаваць сябе ад іх. А вось з жыхарствам справа куды горшая. У часе вайны газы будуць пускаць ня толькі там, дзе фронт, а будуць на самалётах завозіць газавыя бомбы ў тыл і скідаць іх на вёскі і гарады.

Дзеля гэтага кожны грамадзянін Савецкага Саюзу павінен ведаць, як захаваць сябе ад гэтых газаў.

**Як газы атручваюць чалавека.**

Каб ведаць, як газы атручваюць чалавека, трэба перш-на-перш ведаць, галоўным чынам, як працуюць органы чалавечага організму, галоўным-жа чынам лёгкія і сэрца.

Сэрца—гэта такі мяшок (глядзі малюнак № 1), запоўнены крывёю. Мяшок гэты велічынёю з добры кулак і падобен на вялікае гусінае яйка. Якую працу праводзіць сэрца ў нашым організьме? Яно гоніць кроў па жылах, якія расходзяцца па ўсім целе ў самыя далёкія куточкі нашага цела. Кроў па адных жылах цячэ ад сэрца, а па другіх, прашоўшы па ўсяму целу, зварачаецца назад да сэрца.

Апрача сэрца, у нашым целе маецца яшчэ орган—так званыя лёгкія. Лёгкія знаходзяцца ў грудзёх паабапал сэрца і злучаны з ім паасобнай труб-




1. Сэрца, як яно ёсьць, 2. Сэрца ў разрэзе. 3. Выгляд лёгкіх чалавека.

каю „лёгачнаю артэрыяю“. Па гэтай лёгачнай артэрыі кроў цячэ ў лёгкія, а па другой трубцы, гэтак званай „вэне“ зварачаецца зноў у сэрца.

Што такое кроў і навошта яна патрэбна чалавеку? Кроў—гэта самая важная з тых жыжак, якія знаходзяцца ў нашым целе. Кроў павінна бязупынна рухацца па ўсяму целу, каб разносіць усё новыя і новыя запасы тых харчоў, якія патрэбны для падтрыманьня жыцьця нашага цела, і, наадварот—з кожнай часткі цела вынасіць за сабою непатрэбныя часткі харчоў (адкіды). Выходзіць, кроў корміць увесь наш організм. Дзе бярэ кроў харч для нашага організму? Праходзячы каля кішок, кроў забірае за сабою тыя спажыўныя сокі, якія працякаюць праз тонкія сьценкі кішок і якія выдзеліліся з тых продуктаў, якія мы зьелі (хлеб, бульба, цукер, сала).

Але каб гэтыя спажыўныя сокі ўжываць на харч нашаму організму, патрэбен газ, гэтак званы тлен.

Тлен пападае праз рот у горла, па трубцы—у лёгкія. Трубка дзеліцца на дзьве трубкі, крыху цянейшыя за першую. Гэтыя ў сваю чаргу падзяляюцца на шэраг меншых трубачак, і, такім чынам, мы бачым перад сабою 2 кусты з трубак (глядзі малюнак 3).

Самая апошняя маленькая трубачка канчаецца маленькім пухіркам. Гэты пухірок зьяўляецца самаю важнаю часткаю дыханьня—лёгкіх. Паветра заходзіць аж у гэтыя пухіркі. А ў кожным з гэтых пухіркоў па яго сьценках цячэ кроў. Вось тут і заканчваецца самы важны працэс: кроў, як кажуць, асьвяжаецца. Яна забірае з паветра тлен, а аддае назад гэтак званы вугляквасны газ, які выдзяляецца ў сярэдзіне нашага цела. З гэтага выцякае, што калі-б кроў наша не асьвяжалася, дык чалавек памёр-бы. Вось зачым частка тых газаў, якія ўжываюцца на вайне, накіраваны да таго, каб, папаўшы ў лёгкія, ня даць магчымасьці асьвяжацца крыві, а ў сувязі з гэтым ня даць сэрцу працаваць.

Некаторыя газы ня толькі перашкаджаюць асьвяжацца крыві, але яшчэ прыдаюць сваю атруту, якая атручвае кроў і разьядае лёгкія.

Але ня ўсе газы дзейнічаюць на чалавечы організм аднолькава.

Якія бываюць газы і як ад іх ратавацца, будзе ў наступным нумары „Маладога Аратага“.

**Доўгі.**

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Р. Хвойку.** Верш „Ноч“ і „Гэй шырэй“—ня пойдуць. Раім больш дасылаць допісаў і зьвярнуць увагу на тэхніку і пабудаваньне вершаў, для чаго раім чытаць вершы іншых таварышоў.

**Мініну С.** Верш „Маладняк“—ня пойдзе. Тэма ўзятая табою ўжо пета-перапета. Таксама ў вершы тваім заўважваем імкненьне да „падагнаньня рыфмы“, напр.: „вольнага—здольнага“, „аддаць—рацць“ якія ня маюць нічога агульнага з зьместам вершу. Мала падагнаць рыфму, трэба, каб *яна выплывала з зьместу, з сэнсу вершу*. Раім табе, як піонэру комсамольцу, больш узяцца за чытаньне апавяданьняў і вершаў старых пісьменьнікаў і маладнякоўцаў. Не ганіся пісаць і каб многа напісаць, а лепш менш, але лепш. Чакаем ад цябе допісаў аб жыцьці вашай вясковай моладзі.

**Н. Замскаму.** Надасланыя табою штрыхавыя малюнкі для „М. Аратага“ ня будуць скарыстаны. Раім працаваць у гэтым напрамку. Мастацкія малюнкі мы заўсёды з ахвотаю скарыстоўваем.

**С. Патапенку.** Надасланыя табою частушкі зьмешчаны ня будуць. Чаму? Твае частушкі—гэта капіраваньне (сьпісваньне) з частушак З. Бульбяніка і Юркі Доўгага. Праўда, маюцца і ўласныя твае сказы і словы, але слабыя. Раім надсылаць больш допісаў.

## НАШЫ ВЫКЛІКІ.

Я—комсамолец вёскі *Яўсеевіч Грэскага раёну, Случчына, Дарашэвіч Алесь* выпісваю сваю родную часопісь „Малады Араты“ на 4 месяцы і выклікаю гэта-ж зрабіць наступных таварышоў: Гадзецкага Міхася, Захарыка Міхася, Захарыка Алеся, Захарыка Адама, Захарыка Уладзімера, Бердніка Стафана, Коршука Міхася і Дарашэвіча Юзіка.

Выпісваю часопісь „Малады Араты“ і выклікаю падпісацца ня менш як на 3 месяцы наступных таварышоў: Зялёнка (сакратар Узьдзенскага РК), Каток (заг. АПО), Бэрнштэйн В., Тубянец, Пікус Л., Ярмак С. (Каменская яч.), Тарасюк В. і Кавальчук (Губінская яч. ЛКСМБ).

**Гэты нумар рассылаецца ўсім райкомам ЛКСМБ дзеля дармовай рассылкі па ячэйкам з мэтай популярызацыі і азнаямленьня з часопісьсю шырокіх мас сялянскай моладзі.**

Рэдактары: Іл. Барашка. Я. Галодка.

Менск, 1-ая дзярж. друк. Зак. № 3845—2750 экз. Галоўлітбел 20702.

# Як утварыўся каменны вугаль

Тэорыя, якая прынята ўсімі аб утварэньні каменнага вугалю, кажа: што залежы яго ўтварыліся з астаткаў расьлін, якія пад уплывам гарачага клімату і надта багатых дажджоў, перашлі ў становішча вугалю. Пры гэтым дапускаецца, што гэтыя расьліны толькі ў нязначнай частцы зьяўляліся марскімі багавіньнямі (водарасьлямі), галоўным-жа чынам, былі расьлінамі сухазем'я, якія жывіліся прэснаю вадою. Утварэньне тарфяных залежаў і бурага вугалю разглядалася пры гэтым, як папярэдні процэс, які вядзе ў далейшым да ўтварэньня каменнага вугалю.

Аднак, ужо даўно з гэтай тэорыяю спрачаліся шмат вучоных геолёгаў, якія ўпэўнівалі, што па цэламу шэрагу прычын збытак асадкаў у так званы каменна-вугольны пэрыод зьяўляецца непраўдападобным, і што як пабудова, так і хэмічны склад бурага вугалю, а тым больш торфу, зусім адрозьніваецца ад пабудовы каменнага вугалю.

Апрача таго, тарфяныя залежы могуць утварыцца ў гарачым дажджлівым клімаце толькі пры зусім нязвычайных умовах ды і то ня ў зусім невялікім маштабе. З другога боку, гэтыя вучоныя ўсё-ж такі не змаглі растлумачыць: адкуль зьявіліся тыя вялічэзныя масы расьлін, якія былі неабходны для ўтварэньня магутных залежаў вугалю? Нельга адмаўляць, што справа можа ісьці толькі аб крайне хуткіх і багата растучых расьлінах, а гэта, як быццам, дапускалася менавіта вялікай колькасьцю асадкаў.



Глыбока ў нэтрах зямлі рабочыя вуглякопы здабываюць каменны вугаль.

Цяпер нямецкі геолёг Эміль Картгауз апублікаваў новыя і надзвычайна цікавыя весткі па гэтаму пытаньню на аснове назіраньняў, зробленых ім у часе яго вандраваньня па Малайскіх выспах ва ўсходняй Азіі. Ён зацьвярджае, што на прыморскіх узьбярэжжах гэтых выспаў процэс утварэньня каменнага вугалю адбываецца і зараз таксама ў такім-жа выглядзе, як у часы каменна-вугольнага пэрыоду.

Згодна слоў Картгауза, узьбярэжжа гэтых выспаў цалкам пакрыта разнаітымі лясамі (манграў) і знаходзіцца ў паласе прыліву і адліву. Сухазем'е амаль не падымаецца над узроўнем мора, і дрэвы, асабліва ў захаваных ад больш моцнага прыбоя бухтаў, растуць проста ў вадзе. Мясцовасьць усюды робіць уражаньне тыповага марскога (салёнага) балота і зьяўляецца балоцістаю яшчэ на значнай адлегласьці ад берагавой лініі. Гэтыя марскія балоты пакрыты, галоўным чынам, рызафорамі, гэта значыць цьвятучымі расьлінамі—дрэвамі, якія дасягаюць 15 мэтраў вышыні. Яны растуць на высокіх карэньнях, так што ствалы іх пачынаюцца толькі на вышыні 1-2 мэтраў ад зямлі і цягнуцца далёка ў мора і па ўсёй узьбярэжнай паласе, прапітанай салёнаю вадою. Там пападаюцца таксама розныя іншыя дрэвы, доўгія карэньні, якія часткова прынялі характар „паветраных карэньняў". Па сваёй пабудове гэтыя дрэвы напамінаюць тыя расьліны, з якіх утварыўся каменны вугаль. Тут-жа пападаецца вялікая колькасьць хмызьняку і іншых ніжэйшых расьлін, якія па сваёй пабудове зьяўляюцца ўсё-ж такі расьліннымі відамі, якія жывуць на саляных глебах. Адначасова-ж характэрныя асаблівасьці гэтых расьлін відавочна супадаюць з адзнакамі расьлін каменна-вугольнага пэрыоду, у прыватнасьці—папаратнікаў.

Гэтая акалічнасьць ужо наводзіць на думку, што каменны вугаль мог утварыцца менавіта ў такіх марскіх балотах і ў крайне мелкаводных месцах мораў. Але Картгаузу ўдалося таксама конкрэтна ўстанавіць: што процэс утварэньня каменнага вугалю ідзе і ў сучасны момант абсьледваных ім мясцох. Па яго словах, у лясох гэтых марскіх балот ясна відаць, як марская вада заўсёды прыбівае да карэньняў расьлін зусім чорную, амаль збаўленую ўсякай валакністасьці, матэрыю, якая ўтвараецца ў салёнай вадзе з дрэвясіны гэтых-жа лясоў, з марскіх багавіньняў і г. д. Гэтая маса і зьяўляецца маладым каменным вугалем, і з гэткага процэсу ўтварэньня яго тлумачыцца таксама, амаль незразумелае пры іншых абставінах, знаходжаньне азоту ў вугалю.

Картгауз паказвае, што такое тлумачэньне ўтварэньня каменнага вугалю вырашае таксама цэлы шэраг іншых пытаньняў: напрыклад, наяўнасьць пластоў пескавікоў у гліністых шыфероў у вугольных пластох, а таксама паваранай солі і нават брому, і ёду—гэтага пастаяннага, якое маецца ў морскай вадзе.

Апрача таго ў вадзе часта маюцца астаткі жывёл, якія маглі існаваць толькі ў моры. Усё гэта ўвачавідкі сьведчыць пра ўтварэньне вугалю з балоцістых, прыморскіх лясоў.

**ЦАНА АСОБНАГА №—10 КАП.**

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА ДА КАНЦА 1926 ГОДУ

НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

## ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

### „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ГАЗЭТА

Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—25 кап. На 6 мес.—1 р. 50 к. На 3 м-цы—75 к. На 1 год—3 р. — к.

Гарантуецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.

### „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“

Дзіцячая часопісь ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы БССР.

Выдаецца адзін раз у м-ц, багата ілюстравана. „Б П“ зьмяшчае цэлы шэраг матэрыялаў, якія цікавяць дзяцей і памагаюць ім у працы (піонэр. організац.).

У часопісі прымаюць удзел усе лепшыя літаратурныя сілы Бел.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—20 к. На 6 мес.—1 р. 20 к. На 3 м-цы—60 кап. На 1 год—2 руб. 40 кап.

Часопісь, апрача гэтага, прадаецца ва ўсіх кнігарнях і кіосках Дзярж. Выд. Бел.

### ЦІ ПАДПІСАЛІСЯ на ілюстраваную часопісь сялянскай моладзі „МАЛАДЫ АРАТЫ“

самую пашыраную і самую танную беларускую двухтыднёвую часопісь.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“ на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб палітыцы, мае сталы літаратурны аддзел, сельска-гаспадарчы, высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы дописы вясковай моладзі, а таксама жыцьцё і працу гарадзкой моладзі, зьмяшчае п'есы, песьні, частушкі, загадкі, шарады і гульні, аддзел гумару, дае парады моладзі — што чытаць, мае навукова-тэхнічны аддзел з практычным сельска-гаспадарчым ухілам і інш.

У часопісі супрацоўнічаюць звыш 200 сталых корэспондэнтаў, а таксама беларускія палітычныя і літаратурн. дзеячы.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

На 1 м-ц—15 к. На 3 м-цы—45 к. ‖ На 6 м-цаў—90 к. На 1 год—1 р. 80 к.

Згодна умовы з Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі і з экспэдыцыяй канторы „Звезды“ гарантуецца акуратны выхад і дасылка часопісі ва ўсе гарады і вёскі. Апрача падпіскі часопісь патрабуйце ў кіосках і газэтчыкаў.

Кожны вясковы комсамолец павінен абавязкова чытаць „Малады Араты“

### „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“

Штодыднёвая газэта яўрэйскай моладзі гор. і мястэчка.

Орган Яўрэйскай Сэкцыі ЦК ЛКСМБ

на сваіх старонках асьвятляе жыцьцё яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка, налічвае вялікі лік уласных дапісчыкаў, зьмяшчае на сваіх старонках кіраўнічы матэрыял.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—15 кап. На 3 м-цы—45 кап. ‖ На 6 м-цаў—90 кап. На 1 год—1 р. 80 кап.

Яўрэйская моладзь павінна чытаць „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“.

### „ЮНГЕР ПІОНЭР“

піонэрская газэта на яўрэйскай мове

Выходзіць чатыры разы на месяц.

Програма газэты: кіраўнічыя артыкулы па піонэрскому пытаньню, навіны са ўсяго сьвету, літаратурны матэрыял, гульні, загадкі, рэбусы, асьвятленьне жыцьця яўрэйск. школ і піонэрскіх атрадаў.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—10 кап. На 3 м-цы—30 кап. ‖ На 6 м-цаў—60 кап. На 1 год—1 р. 20 кап.

ПАДПІСКА НА ВЫДАНЬНІ ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“ ПРЫМАЕЦЦА ПРАЗ ЯЧЭЙКАВЫХ УПОЎНАВАЖАНЫХ: У ГАЛОЎНАЙ КАНТОРЫ „ЗВЕЗДЫ“ (МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 63). УВА ЎСІХ ПАШТОВЫХ АДДЗЯЛЕНЬНЯХ, УВА ЎСІХ АДДЗЯЛЕНЬНЯХ І АГЕНЦТВАХ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА.

**Адрэс рэдакцый усіх памянёных выданьняў: Менск, Комсамольская 25, тэл. 903.**